Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 7 жніўня 1987 г. № 32 (3390) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



**Перад жнівом**

На здымку—лепшыя механізатары Любаншчыны Анатоль Каладзько і Мікалай Кашляк.

Фота А. КЛЯШЧУКА.

# Указ
# Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР

**Аб узнагароджанні тав. Янкі БРЫЛЯ (Брыля І. А.) ордэнам Дружбы народаў**

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзіць пісьменніка Янку Брыля (Брыля Івана Антонавіча) ордэнам Дружбы народаў.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**А. ГРАМЫКА.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**Т. МЕНТЭШАШВІЛІ.**

Масква, Крэмль.
3 жніўня 1987 г.

# МЫ РОДАМ З КАСТРЫЧНІКА

**«У жалезных батальёнах рэвалюцыі» — адна з кніг, выпушчаных нядаўна выдавецтвам «Беларусь». У зборнік, складзены Э. Карніловічам і Э. Забродскім, увайшлі ўспаміны ураджэнцаў Беларусі — актыўных удзельнікаў *Вялікай* Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Яны пісаліся аўтарамі ў розныя гады, змяшчаліся на старонках такіх выданняў, як «Правда», «Красная летопись», «Пролетарская революция», «Молодая гвардия» і іншых. Апублікаваныя ў хstation храналагічнай паслядоўнасці, мемуары ўзнаўляюць яркія моманты барацьбы за Савецкую ўладу ў Пецярбурзе, Маскве, іншых гарадах і раёнах былой царскай Расіі. Са старонак кнігі паўстаюць і непаўторныя воблікі яе аўтараў.**

**Адзін з іх — рабочы рэвалюцыянер, паэт і публіцыст Іван Казлоўскі, які вядомы таксама пад літаратурным псеўданімам Батрак. Выхадзец з беднай сялянскай сям'і вёскі Малое Гольцава цяперашняга Талачынскага раёна, ён з 1911 года працуе ў Пецярбурзе, друкуецца на старонках «Праўды», разам з іншымі рэвалюцыянерамі арганізоўвае падпольную друкарню і выдае нелегальную бальшавіцкую газету «Пролетарий», якую высока ацэньваў У. І. Ленін. Запіскі І. Казлоўскага «Падполле і катарга» — свайго роду рэпартаж з пярэдняга краю рэвалюцыйнай барацьбы.**

**Цікавыя і ўспаміны тых, хто штурмаваў Зімні. Свае мемуары Канстанцін Ерамееў, прафесіянальны рэвалюцыянер, публіцыст, адзін з кіраўнікоў Кастрычніцкага ўзброенага паўстання ў Пецярбурзе, саратнік У. І. *Леніна, так і назваў «Эпізоды* Кастрычніцкіх дзён». У атрадзе рабочых і маракоў, якія 25 кастрычніка 1917 года бралі прытулак Часовага ўрада, быў і камандор Васіль Купрэвіч, ураджэнец вёскі Клённікі цяперашняга Смалявіцкага раёна, а пазней вядомы савецкі вучоны-біёлаг, прэзідэнт Акадэміі навук БССР. Яго ўспаміны «На «Самсоне» ў тыя дні» (упершыню былі змешчаны ў часопісе «Полымя» ў 1967 годзе) — расказ пра службу на мінаносцы Балтыйскага флоту «Самсон», які перайшоў на бок рэвалюцыі. Ахоўваў Смольны, неаднаразова сустракаўся і гутарыў з У. І. Леніным пуцілаўскі рабочы (нарадзіўся ў вёсцы Калінаўка цяперашняга Дубровенскага раёна) Максім Мухтар-Ландарскі. Асобныя эпізоды гэтых сустрэч узнаўляюцца ва ўспамінах «Баявая дружына Чырвонай гвардыі Пуцілаўскага завода».**

**Пра тое, як усталёўвалася Савецкая ўлада ў Маскве, прыгадваюць Аляксандр Пірэйка, Барыс Волін, Сямён Рыгосік, Пётр Смідовіч.**

# Стратэгія паскарэння

**Выдавецтва ЦК КПСС «Правда» працягвае выпуск зборніка «Паскарэнне», у якім разглядаюцца актуальныя праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на шляху перабудовы, прапагандуецца вопыт працоўных калектываў, якія ўпэўнена працуюць у новых умовах. Толькі што пабачыў свет чарговы, чацвёрты выпуск зборніка, змест якога склалі матэрыялы, якія ў апошні час змяшчаліся ў цэнтральным перыядычным друку, у тым ліку ў «Правде», «Известиях», «Литературной газете».**

**Што змянілася ў стылі работы апарату Гомельскага абкома Кампартыі Беларусі пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС і XXVII з'езда партыі, як увязваецца яна з канкрэтнымі задачамі дня? На гэтыя і іншыя *пытанні, звязаныя з перабудовай,* адказваюць удзельнікі «круглага стала», праведзенага карэспандэнтамі «Правды» А. Сімуравым і А. Уліцёнкам. Рэпартажам з яго кніга адкрываецца.**

**С. Ваганаў і М. Шчарбачэнка ў артыкуле «Людзей менш — справы больш» знаёмяць з шырокавядомым у краіне беларускім эксперыментам, які дазволіў скараціць 12 тысяч чалавек — каля 10 працэнтаў ад агульнай колькасці занятых на Беларускай чыгунцы і сёння ўзяты на ўзбраенне яшчэ дзесяццю чыгункамі.**

**«Тэмпы і новая якасць росту» — пасяджэнне «Дзелавога клуба «Правды». У ім поруч з іншымі прымае ўдзел начальнік фінансавага аддзела Міністэрства лёгкай прамысловасці БССР Л. Караткевіч.**

**Друкуецца шэраг іншых матэрыялаў, у якіх раскрываецца стратэгія паскарэння, аналізуецца перадавы вопыт перабудовы ў калектывах рознага рангу, гаворыцца аб актывізацыі чалавечага фактару.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# РАЗБЯРЭМСЯ САМІ...

**У цікавых дзённікавых нататках пра Сяргея Сцяпанавіча Дзяргая, надрукаваных нядаўна на старонках «ЛіМа», Янка Сіпакоў прыводзіць выказванні паэта, якія прымушаюць задумацца. Маю на ўвазе, у прыватнасці, яго горкія словы аб тым, што ў нас... няма інтэлігенцыі. Паэт перабольшвае, вядома, завастрае, але, відаць, нейкая доля праўды ў яго прызнанні ёсць. І вось думаеш: у *чым справа? У чым прычыны* таго, што многім з нас, людзям як быццам інтэлігентнай прафесіі — настаўніку, журналісту, культасветработніку, інжынеру, — чамусьці не хапае гэтай самай інтэлігентнасці? У залішнім практыцызме? У мяшанні «капусты з гарохам», яркі ўзорчык чаго прывёў народны пісьменнік Янка Брыль у надрукаванай нядаўна мініяцюры «Двойчы па два»? У неахайным стаўленні да роднай культуры, да гістарычнай спадчыны свайго народа?**

**Пытанняў шмат, яны сёння дыскуціруюцца ў друку. На многія з іх няпроста даць адказ. Патрэбны мудрасць, усебаковы падыход. Але нам не патрэбны, я думаю, падказкі розных радыёгаласоў з Захаду, розных замежных «беларусазнаўцаў». Ім трэба было б ведаць, што мы, беларусы, тут, дома, лепш разбярэмся, што патрэбна нашаму народу. Няхай яны там, на Захадзе, корпаюцца ў *сваіх дапатопных выдумках* накшталт «спадароў» ды «коўзалаў», а мы тут у сябе будзем карыстацца сучаснай беларускай літаратурнай мовай, будзем клапаціцца аб тым, каб яна надалей развівалася і ўзбагачалася сумесна з іншымі братнімі, перш за ўсё рускай, мовамі.**

**В. ХІЛІМОНАЎ,**
**ветэран вайны і працы.**
г. п. Мір.




**АНКЕТА «ЛіМа»**

**На чэрвеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС было падкрэслена, што перабудова, якая разгарнулася ў краіне, — прамы працяг справы Кастрычніка, паслядоўнае ажыццяўленне ідэалаў, накрэсленых на сцягу нашай рэвалюцыі, 70-годдзе якой мы будзем адзначаць сёлета.**

**Рэдакцыя «ЛіМа» звярнулася да шэрагу дзеячаў літаратуры і мастацтва рэспублікі з просьбай адказаць на наступныя пытанні:**

**1. У чым Вы асабіста бачыце пераемнасць рэвалюцыйных традыцый, практычную сувязь перабудовы з ідэаламі Кастрычніка?**

**2. Як Вы ўяўляеце значэнне чалавечага фактару, чалавечай асобы ў працэсе перабудовы? Ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні, якое адбываецца ў грамадстве?**

***Сёння мы друкуем адказ на пытанні анкеты народнага артыста СССР кампазітара Яўгена Глебава.***

**Яўген ГЛЕБАЎ**

# Нашы агульныя боль і надзея

ПЕРАЕМНАСЦЬ рэвалюцыйных ленінскіх традыцый я бачу і ў суладдзі слова і справы. Пераемнасць — гэта і захаванне традыцый, іх развіццё. У прыватнасці, традыцыі павагі да творчасці і тых, каго ўжо няма сярод нас, і тых, хто побач, старэйшых па ўзросце і пачаткоўцаў. Традыцыі творчых накірункаў і іх сучаснага развіцця. Традыцыі сяброўства, зычлівасці, супрацоўніцтва. Ці можна сказаць, што такія традыцыі ў нас ёсць? Ёсць. Ды, на жаль, даводзіцца гаварыць і пра «традыцыі» забыцця, нівеліроўкі дасягненняў і няўдач, падвядзення індывідуальных творчых набыткаў пад адзіную сярэднюю рысу... Не называць добрае добрым, а дрэннае дрэнным — гэта шкодзіць мастаку, не стымулюе паўнацэнную творчую працу. Хіба не сталі традыцыйнымі ў нас кланы, групы, ад якіх мы, здаецца, і не намерваемся пазбаўляцца? Традыцыйная няўвага да нашай працы з боку музыказнаўцаў-тэарэтыкаў і крытыкаў: няма аглядаў, няма фундаментальных работ пра творчасць беларускіх кампазітараў. І не дзіўна, што традыцыйным робіцца непачціва-паблажлівае стаўленне да нашай працы, да нашай прафесіі, да нашага саюза.

У пераадоленні такіх «традыцый» я і бачу сэнс перабудовы ў нашым творчым саюзе.

ПЕРАБУДОВА. Калі слова гэтае ўспрымаеш у літаральным сэнсе, яно азначае «зламаць, каб пабудаваць нанова». Перабудоўваць — цяжэй, чым проста пачынаць будаўніцтва новага. Перабудова ідзе не на пустым месцы, і яна часта вымагае рашучага адмаўлення, ачышчэння ад таго старога, што замінае жыватворнаму працэсу прагрэсіўных перамен у нашым грамадстве сёння.

**На жаль, не магу сказаць, што працэс карэннай *ломкі* ідзе зараз паўсюдна. Уражанне такое, што ёсць нямала прыхільнікаў «умеранай перабудовы», якія імкнуцца з мінімальнымі намаганнямі і з мінімальнымі выдаткамі нешта перарабіць, перайначыць. Што ж, такі шлях магчымы. Не ведаю, ці правільны, ці плённы ён? Час пакажа. Пакуль жа відавочна, што далёка не ўсе ўсур'ёз успрынялі рэвалюцыйны па сваёй сутнасці курс партыі на перабудову. Адчуваецца і глухое, і дэманстрацыйнае супраціўленне гэтаму курсу, прыкрытае нярэдка правільнымі словамі і ўяўнымі справамі.**

Не *магу не сказаць* пра тое, як ідзе гэты працэс у нас, у Саюзе кампазітараў Беларусі. Калі па шчырасці, пакуль не *змянілася нічога.* Усё ціха. І гэта, відаць, дае падставу чалавеку старонняму думаць, што ў нас усё у парадку, што праб*лем няма, што* ўсё пабудавана як належыць і перамен не вымагае. Між тым, праблем у Саюзе кампазітараў шмат, і калі іх не вырашаць, дык іх колькасны рост вось-вось ператво-

# ВОБРАЗ РЭВАЛЮЦЫІ, ВОБРАЗ ЛЕНІНА

«Кастрычнік і вобразы герояў рэвалюцыі ў сучаснай беларускай мастацкай і дакументальнай літаратуры» — тэма, якой было прысвечана пасяджэнне «круглага стала» ў Доме літаратара, арганізаванае СП БССР сумесна з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З дакладамі па пытаннях развіцця рэвалюцыйнай тэматыкі ў беларускай літаратуры выступілі навуковыя супрацоўнікі інстытута У. Гніламёдаў, Л. Савік, С. Лаўшук.

У сваім выступленні У. Гніламёдаў у асноўным засяродзіўся на гісторыі развіцця тэмы рэвалюцыі і вобраза рэвалюцыянера ў мастацкай літаратуры. Адзначыў асаблівасці адлюстравання рэвалюцыйнай тэматыкі ў творах першага пасляРэвалюцыйнага дзесяцігоддзя і ў пазнейшы час.

Л. Савік сваю ўвагу сканцэнтравала на здабытках і пралі*ках у адлюстраванні ленінскай* тэмы ў беларускай літаратуры. Адзначыла, што на сучасным этапе настойлівасць пошукаў *беларускіх празаікаў у* далейшай інтэрпрэтацыі ленінскай тэмы асабліва прыкметна ў творах І. Шамякіна.

Аб праблемах і цяжкасцях адлюстравання вобраза У. І. Леніна ў драматургіі гаварыў С. Лаўшук. Заглыбіўшыся ў гісторыю развіцця беларускай драматургіі, даследчык прасачыў як з цягам часу пастунова змяняўся падыход да вобраза рэвалюцыянера і тэмы рэвалюцыі ў творах беларускіх драматургаў.

— Мы ўсё больш гаворым пра тое: што было зроблена папярэднікамі, а што зрабілі самі? — падкрэсліў І. Шамякін. — Далёка не заўсёды гісторыя рэвалюцыі адлюстроўвалася правільна. Памыляліся гісторыкі, а за імі і мы — пісьменнікі. *Зараз адкрываюцца вялікія* магчымасці для таго, каб нарэшце напісаць кнігу пра нараджэнне нашай рэспублікі. Гісторыя *ў гэты час была драма*тычнай, неабходна многае адкрыць нанова і многае пераглядзець.

— Так, *гэта праўда,* — сказаў У. Якутаў, — пісьменнік, які піша пра гісторыю, сутыкаецца з цяжкасцямі як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага плана. Лёгка пісаць, як Ленін быў у Шушанскім, як даваў падарункі дзецям. А як пісаць пра Ленін-

на-палітыка і стратэга, калі нават сёння, хоць мы і вітаем дэмакратызацыю грамадскага жыцця, многія па-ранейшаму мысляць дагматычна. Трэба шчыра прызнаць, што вялікіх твораў на гістарычную тэму ў беларускай літаратуры няма. Ёсць У. Караткевіч і У. Арлоў, але ж усё гэта рамантызм. Думаецца, што сягоння на ўсё трэба паглядзець з новага пункту гледжання. Пераглядзець, у першую чаргу, нашы адносіны да рэальных гістарычных асоб, вырашыць пытанне аб рэабілітацыі З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага).

— Гісторыю трэба пісаць нанова, але не трэба забываць і пра тое, што ўжо было зроблена папярэднікамі, — зазначыла Л. Кобец-Філімонава.

— Так, трэба, думаецца, перачытаць творы першых паслярэвалюцыйных гадоў, бо сёння зусім па-іншаму пачынаеш разумець многія моманты з таго ж «Адшчапенца» Я. Коласа, іншых твораў таго часу, — падтрымаў гэтую думку М. Мушынскі. — Варта, напэўна, вярнуцца нам і да *тэатральнай* дыскусіі. Аднак калі параўноўваеш дакументальныя матэрыялы тае пары і нашу мастацкую *літаратуру* — бачыш, як многа трэба зрабіць. Для ўсіх тут вялікае поле дзейнасці. У тым ліку і для Інстытута літаратуры. Мне здаецца, што няправільна шукаць ленінскую тэматыку ў творчасці пісьменніка толькі там, дзе прысутнічае вобраз У. І. Леніна. Важней прасачыць, які ўплыў гэтая тэматыка аказвае ў цэлым на яго далейшую творчасць. На жаль,

## КНІГАПІС

АЛЕСЬ АДАМОВИЧ

ХАТЫНСКАЯ — ПОВЕСТЬ КАРАТЕЛИ

А. АДАМОВІЧ. Хатынская аповесць. Карнікі. На рускай мове. Л., «Художественная литература», Ленінградскае аддзяленне, 1986.

**Перавыдадзены два вядомыя творы Алеся Адамовіча — «Хатынская аповесць» і «Карнікі», у якіх пісьменнік па-свойму асэнсоўвае трагічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны, паказвае мужнасць савецкага народа ў барацьбе з фашызмам. Прадмову «Сілай любові і нянавісці» напісаў Васіль Быкаў.**




Д. БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА. Даўняе сонца. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**У кнігу «Даўняе сонца» ўвайшлі лепшыя творы Дануты Бічэль-Загнетавай. Тэматычны дыяпазон іх шырокі. Аўтар звяртаецца да мінулага свайго народа, у тым ліку да падзей Вялікай Айчыннай вайны, піша пра дружбу народаў, нямала прачулых радкоў прысвяціла прыгажосці роднага Прынямоння, апяванню кахання. Для твораў Д. Бічэль-Загнетавай характэрны задушэўнасць інтанацыі, блізкасць да фальклорных матываў.**




М. БАСКІН. Гайшынскія гісторыі. Апавяданні. Г. ЛАНЕЎСКІ. Паданні роднага краю. Апавяданні. Мінск, «Юнацтва», 1986.

**«Здаўна на Магілёўшчыне расказваюць гісторыі пра Гайшын і гайшынцаў. Вясёлыя гэта гісторыі, вясёлы народ гайшынцы: і з сябе пасмяюцца, і суседа не абыдуць, жартам зачэпяць. Бо як кажуць гайшынцы: «Жарты у Гайшыне на агародзе растуць, разам з бульбай гайшынцы іх ядуць», — так пачынае невялічкую прадмову да зборніка апавяданняў «Гайшынскія гісторыі» Марат Баскін. Творы гэтыя — мастацкі *пераказ* сюжэтаў пра гайшынцаў. Малады аўтар піша дасціпна, раскрываючы душу людзей, аптымістаў і жыццялюбаў.**

**Пад адной вокладкай з «Гайшынскімі гісторыямі» М. Баскіна змешчаны апавяданні Г. Ланеўскага, аб'яднаныя агульнай назвай «Паданні роднага народа». «Купала», «Рагнеда і Уладзімір», «Гара Лысая» — паасобныя з гэтых старонак, што вяртаюць чытача да падзей сівой і менш далёкай даўніны.**

## КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ

# Месца, якое ёсць...

### Аргументы антыутопіі

*Алесь Адамовіч. Апошняя пастараль. «Новый мир», 1987, № 3.*

**Архімед гаварыў: дайце мне пункт па-за зямлёй, і я зрушу зямлю з восі. Зберажы нас божа ад такой думкі!**

**В. К. Кюхельбекер.**

Не збярог... З зямлі зямлю разгайдалі («да чаго ж дапытлівыя дзеткі!») — у будучыню глядзець страшна. Дык што ж, ёй—спіну, а велічнаму спакою бяз'ядзернага стагоддзя — твар? Але і адтуль, з залатаноснай нашай літаратуры, узнімаецца насустрач баязліваму, у бяспамяцтве, позірку да жаху знаёмае, спазнанае Хірасімай: «...хвалі яркага святла знянацку залілі наш зрок асляпляльным бляскам. Мы ўсе кінуліся на зямлю і доўга не адважваліся расплюшчыць вочы, баючыся быць апрамененымі... Дыханне зрабілася цяжкім; усе твары пакрыліся смяротнай бледнасцю. У многіх галава пачала кружыцца: яны валіліся на зямлю і ў жудасных сутаргах, *з паносам і рвотаю, каналі*». А потым ідзе тое, да чаго і самі мы дадумаліся нядаўна: «Люты вецер з ... дажджом і завірухаю раскідаў... нашы прытулкі і нас саміх... Мора пакрылася... льдзінамі... Навокал утвараюцца ледзяныя горы... Сцюжа ўзмацняецца...»

У 1833 годзе В. Сянкоўскі, аўтар вышэйпрыведзеных радкоў і адной з першых у свеце антыутопій, яшчэ мог дазволіць сабе расказваць аб сусветнай катастрофе з хітраватай усмешкай. Адкрыта фантастычнай была яе прычына (падзенне каметы), а экстравагантная канцоўка аповесці «Вучонае падарожжа на Мядзведжы Востраў», у якой угадвалася *пародыя* на модныя навуковыя плыні, здымала камень з душы і настройвала на вясёлы манер: два славутыя вучоныя мужы старанна вывучаюць гісторыю загінуўшага чалавецтва, расшыфроўваюць па навейшых методыках старажытныя іерогліфы—запіскі мёртвага чалавека пра вялікі патоп, якія на справе аказваюцца... звычайнымі геалагічнымі ўтварэннямі. Няма іерогліфаў, няма гісторыі, няма і гібелі. Смешна, праўда? Але чаму сумныя твары? Камета, казка, жарт, літаратурная містыфікацыя ў духу барона Брамбеуса — і сум? Ці сябе ўбачылі ў «дапатопных» людзях, сабе ж не давяраючы? І ў аўтара ёсць радкі пра набліжэнне каметы, дзе, бадай, трывога праз смех: а раптам з'явіцца не камета — **штосьці**, але сапраўднае, і зноў стане «прадметам страху толькі для забабоннай чэрні», у той час як «людзі прыстойныя» будуць забаўляцца гэтым **«чымсьці»**, нібы «дзеці, што ганяюць у паветры прыгожую мыльную бурбалку?» Прыстойнымі, як вядома, жадаюць быць усе, асабліва сёння. Аднак не, бываюць жа дзівакі! Вунь адзін сапсаваў наіўнай прастадушнасцю настрой цырымоннай кампаніі, досыць пахваляваў яе і замест чаканага «Здарова, рабяты!»—наце «Апошнюю пастараль...»

На адзіным пасярод патопу востраве ў неіснуючым свеце В. Сянкоўскага памерлі двое: ён і яна... У неіснуючым (?) свеце, на *апошнім* жывым кавалачку зямлі нарадзіліся двое: Ён і Яна з «Апошняй пастаралі» Алеся Адамовіча...

Аповесць яшчэ не была надрукавана, а сумненне ўжо было пасеяна. У дыялогу з А. Адамовічам на старонках «Литературной газеты» (1986, № 40) Н. Іванова гаварыла, што яна не зусім разумее, што гэта за жанр, «пасляядзерная пастараль». Няўпэўненасць, скепсіс выдавалі адносіны да «пастаралі» як да літаратурнага іншапланецяніна. І вось аповесць апублікавана, прачытана, і высветлілася, што яна—з «нашай планеты», што за ёй — багатая традыцыя «традыцыйнай» літаратуры (даруйце таўталогію), і несур'ёзна разглядаць «Апошнюю пастараль» быццам плод прабірачнай фантазіі. Усё значна працей і адказней. Гэты твор з'явіўся якраз тады, калі культурай, літаратурай гуманізму востра адчуваецца патрэбнасць, кажучы словамі С. Залыгіна з трыбуны пісьменніцкага з'езда, «ісці ад чалавека да чалавецтва», бо чалавецтва ў колькасці пяці мільярдаў «такое ж рэальнае, як і асобны чалавек, паколькі ўсё яно без выключэння становіцца героем яшчэ ненапісанага рамана аб вайне і міры». У «Апошняй пастаралі» дзейнічаюць не мільярды, *а трое (і то не адразу)*: Ён, наш капітан-падводнік, Яна і Трэці, цемнаскуры амерыканскі астранаўт, госць, але па сутнасці ў творы паўстае глабальная чалавечая мадэль — мадэль памылак, прадузятасці і, нарэшце, пагібелі. Агульнае ў адзінкавым — прынцып «Апошняй пастаралі». «Я» героя — гэта «мы», людзі, якія за ўсё ў адказе. Яна — суддзя і пракурор. Усежанчына і Усекаханне, Бацічэліева Венера, «*апошняя кропелька на апошняй галінцы*». Яе прыгажосць — гэта прыгажосць усіх жанчын свету, Яе словы — гэта словы ўсіх закаханых на Зямлі. Можна сказаць, што ў аповесці А. Адамовіча рэальна дзейнічае чалавецтва ў асобе трох сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў. Іхні «незразумела як існуючы» востраў-планета з аанаўскім сцягам над шалашом. Яны — і дзяржавы, і расы, і полы, і блокі. Канечне, *незвычайна*, але не без роду і племені. Ёсць і тое, і другое.

Дастаткова звярнуцца да нашай «ваеннай» літаратуры, каб пераканацца, што ў «Апошняй пастаралі» паслядоўна рэалізуецца і развіваецца тая ідэя агульначалавечай пакуты на вайне, якая вызначала антываенны пафас дакументальных кніг А. Адамовіча, Д. Граніна, Я. Брыля, У. Калесніка, С. Алексіевіч, рабіла іх значнай з'явай не толькі савецкай літаратуры. *Альбо* проза В. Быкава: «Слотным ветраным днём позняй восені на другім годзе вайны атрадны разведчык Бураў ехаў на станцыю Масцішча, каб застрэліць свайго знаёмца Сушчэню» («У тумане»). Чалавек едзе забіць чалавека, знаёмца, а падазрэнне, «святая адплата» — усё гэта потым, потым...

Вельмі многае ў гэтай літаратуры іначай, па-новаму. Вайна *там* — смерць, забойства, калі страляюць не ў воіна, не ў салдата, а ў чалавека, безабароннага. Проста ў чалавека. Яго забіваюць, яго катуюць, і ўсё гэта пазбаўлена хлуслівага раўнапраўя ў знішчэнні (маўляў, мы вас, але і вы — нас. Што зробіш! Ад веку ідзе: ратная справа...) Тут ужо ніякімі «законамі» вайны не прыкрыешся (прыгадайце аповесць К. Вераб'ёва «Гэта мы, госпадзі!»). Ніякія яны не законы, а «беззаконнасць» тут, зараз, пацвярджае беззаконнасць вайны наогул, яе бесчалавечнасць.

Безабароннасць жыцця і абсурднасць былога «вы — нас, але і мы вас» — *хіба* не ў гэтым звышзадача «Апошняй пастаралі»? «...мы людзі ваенныя. А недабітыя таму, што яшчэ не выканалі загад», — гаворыць амерыканец-астранаўт. Правільна гаворыць, па Клаузевіцу, але для атамнага стагоддзя, дзе крылатае «вайна як працяг палітыкі» гучыць ужо так: смерць ёсць працяг жыцця іншым спосабам (словы Р. Х. Шахназарава). І будзе гучаць, пакуль будуць (цытуем «Апошнюю пастараль») «рэчы, далей за якія палітыкі пайсці не могуць менавіта таму, што яны палітыкі».

Калі чытаеш «Апошнюю пастараль», міжволі параўноўваеш свае адчуванні з тымі, якія выклікаў фільм «На наступны дзень», хаця гэтыя творы вельмі моцна адрозніваюцца: А. Адамовіча цікавіць філасофія трагедыі, аўтары фільма арыентуюцца *непасрэдна* на эфект амаль дакументальна ўвасобленага на экране механізма атамнага знішчэння. Але ёсць і нешта агульнае, галоўнае. Ёсць, як нам здаецца, новая, шмат у чым нязвыклая канцэпцыя ворага. Злучаныя Штаты і Савецкі Саюз у фільме і кнізе хутчэй не праціўнікі, а ўдзельнікі трагедыі (галоўнаму герою «Апошняй пастаралі» нават няёмка за агляд скафандра госця: «быццам абшукаў» мундзір ворага». Якая цяпер варожасць...). Вораг—бомба. Супраць яе, супраць хімер ілжывай прынцыповасці, за якія прыйдзецца плаціць жыццём чалавечага роду, накіраваны гэтыя творы. А. Адамовіч апісвае тое, што здарылася **пасля**; менш — тое, *што* адбывалася раней ці адначасова дзесьці адбываецца, канвульсіруе ўдарамі «адплата» па трупу Зямлі (маленькія раздзелы з каманд-заклікаў, вар'яцтва бойні, ідыёцкіх жартаў ваяк, асуджаных на самазабойчае выкананне прывіднага абавязку). Свет, у якім жывуць героі аповесці,— асаблівы свет, свет наадварот. Яго нам вывернулі—і чытач разгубіўся, а разам з ім і крытыкі. Вось ужо аднаму паважанаму крытыку спатрэбіліся ў героях «зямная натура, жывая стыхія пачуццяў». А ці жывыя яны наогул, у гэтым свеце з апакаліптычнымі трохгаловымі пацукамі, бязвокімі павукамі і павуціннем-кісялём (не дай бог пакаштаваць!), з *чарапахамі і крабамі, падобнымі* на павукоў; з агіднымі, як грыбная сырасць, кветкамі, чый брыдкі пах дапякае толькі Ей, а Ён яго не адчувае, аднак... старанна адмываецца. Дзіўны свет дыктуе героям аповесці паводзіны, «нават, калі яны супярэчаць здароваму *розуму*. Розум гэты, калі здаровым быў? Калі і свет быў зусім іншым!»; вымушае даказваць сабе ўласнае існаванне, бо ў магчымасць яго цяжка паверыць і Яму, і Ей. Але каб паверыць у добрае (існуем!), трэба пераканацца ў дрэнным, у тым, што па-сапраўднаму ёсць і гэтыя пацукі, і гэтыя брыдкія кветкі, і павукі, інакш: «Няўжо ты дагэтуль не зразумеў: нас жа няма, няма, няма!»...

Найвялікшая памылка—па інерцыі звыклай свядомасці шукаць здаровы сэнс у такім! А як такое адлюстроўваць, калі яно «*не такое*»? «Не такое», таму што яно — не нармальнае, не чалавечае, таму што «такое пачуццё часам, што астравок наш і не на Зямлі зусім». А мы патрабуем упарадкаванасці ў адлюстраванні.. Чаго?!!

«Час... па крузе пабег», — растлумачыць пазней Яму і Ей новы пастаялец апошняга каўчэга жыцця. Усё супала, спалучылася: рытуальная чысціня бярозкі, паганская малітва ў гонар Даждзьбога, «целам якога (дажджавым чарвяком, «першай дружалюбнай істотай» на востраве.—**І. А.**) кормімся». Я—бог, я—чарвяк, і пакланенне богу — пакланенне чарвяку... Стоп-стоп! Але гэта ўжо нядаўняе, нам блізкае: калі маральны чалавек убачыць чарвяка на бруку, то дапаможа яму схавацца ад сонца, перанясе ў траву; калі ўбачыць у лужыне казюрку, то не забудзе кінуць ёй для выратавання лісток ці саломінку. І пры гэтым не спалохаецца, што яго абсмяюць за сентыментальнасць, бо «такі лёс любой ісціны, якая заўсёды з'яўляецца прадметам кпінаў да таго, пакуль яе прызнаюць». (Альбер Швейцэр). Спачатку смяяліся, цяпер молімся. Не, **яны** моляцца, а **мы** яшчэ смяёмся і саромеемся дабрыні.

Аднак, далей, угору па вертыкалі. Ад пары, прарадзіцеляў (калі іх толькі двое ў Сусвеце)—да ўзнікнення сям'і, пазнання сораму (з прыходам Трэцяга). Угору, угору! Ужо і Яму «час цывілізавацца». Падумаў, пачаў і... знайшоў пісталет. Угору, угору, але куды? Іхні пачатак—наш канец, іхні канец (у радыяцыі)—наш пачатак, таксама ў радыяцыі, пад афрыканскім сонцам (з афрыканскай «радыяцыі-мутацыі... пайшоў першачалавек»). Круг замкнуўся, бы пастка, дзе жыццё само сябе вычэрпвае, нібыта рухаецца ў шпенглераву прастору «ідэальнай даўжыні жыцця ў тысячу год для кожнай культуры», запаўняючы яе да апошняга годзіка. Як пераадолець ракавую прызначанасць, пашырыць рамкі быцця, узбагаціцца тым, што дае нам час, і стартаваць у будучыню, у жыццё? Нібы нам на навуку—прарочыя ўрыўкі са старажытных паданняў і першых раманаў, напэўна, таксама ў свой час не пачутых. Вырываецца з «запредельного» свету пытанне: «Якіх геніяў прырода і лёс насустрач табе высылалі, якіх праваднікоў, якія Словы, Кнігі, Галасы, якія Светачы ты трымаў у руках—і ўсё не на карысць. Нішто не дапамагло, скончылася вось чым. Дык чаму ж, чаму, які праклён над намі вісеў? Ці сапраўды — Каінава пячатка?» Але замест адказу—контрпытанне аб нейкай маральнай нявыверанасці ў гэтым сюжэце пра забойства жыцця на

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

АМАЛЬ адначасна выйшлі з друку дзве новыя кнігі з краязнаўчай серыі «Па родным краі», выпуск якой распачало пазалетась выдавецтва «Полымя» і якая, дзякуючы кнігам Г. Каханоўскага «Повязь часоў», А. Грыцкевіча «Старажытны горад на Случы», К. Шышыгінай «Музы Нясвіжа», набыла папулярнасць. Гутарка ідзе аб «Гальшанах» і аб выданні «Цвітуць над Прыпяццю сады», якая прысвечана Мазыру.

Якасная розніца двух названых выданняў аб'ектыўна абумоўлена тым, што аўтар «Гальшан» Э. Корзун выступае даследчыкам, праца якога абапіраецца на шматлікія крыніцы (у спісе выкарыстаных крыніц больш за сто назваў). Аўтары ж кнігі пра Мазыр А. Бароўскі, Ю. Герасіменка, як сведчыць напісаны імі тэкст, — журналісты, якія абагульнілі тое-сёе з невялічкага кола агульнадаступных выданняў. Варта адзначыць, што «Гальшаны» аздоблены багатым ілюстрацыйным матэрыялам (фотаздымкі вядомых людзей, старажытныя малюнкі і партрэты, здымкі архітэктурных і культурных помнікаў), кніга ж пра Мазыр не мае ніводнай ілюстрацыі, калі не лічыць некалькіх «мастацкіх» застаўак, якія з лёгкасцю стасуюцца да любога выдання пра які хочаш горад рэспублікі. «Гальшаны» — гэта, па сутнасці, навуковае даследаванне, «Квітнеюць над Прыпяццю сады» — зборнік павярхоўных замалёвак, зробленых маладасведчанымі ў краязнаўстве людзьмі.

Э. Корзун падрабязна апавядае пра гісторыю аднаго з самых старажытных паселішчаў Беларусі. Знаёмства пачынаецца з легендарнага матэрыялу пра заснаванне Гальшан, звесткі, пададзеныя «Хронікай Быхаўца». Аўтар даводзіць гісторыю князёў Гальшанскіх і змяніўшых іх у Гальшанах Сапег, пералічвае шэраг наступных уладальнікаў гальшанскіх маёнткаў, якія з'явіліся пасля праведзенай у 1650 годзе эксдывізіі (падзела маёмасці паміж крэдыторамі). Чытач даведаецца, што і кім за шматвяковую гісторыю Гальшан было тут пабудавана, што і кім было знішчана, атрымае ўяўленне пра тапаграфію Гальшан, мясцовую гаспадарку, пра архітэктуру замка, касцёла і манастыра, пра паперню, якая існавала ў Гальшанах з канца XVI стагоддзя. Прыводзяцца вытрымкі з унікальных дакументаў пра феадальны ўціск, шырокія звесткі пра рабунак Гальшан шведамі, а праз стагоддзе — войскамі Напалеона. Немалую ўвагу ўдзяліў аўтар і суседнім з Гальшанамі вёскам. Цікава даведацца, што ў старажытнай вёсцы Біюцішкі нарадзіўся вядомы ідэолаг Рэфармацыі і філосаф Андрэй Волан. Дарэчы сказаць, у Біюцішках ён і пахаваны. Паблізу Гальшан, даведваемся мы, нарадзіўся і правёў юнацкія гады вядомы паэт, сябра Адама Міцкевіча і Яна Чачота, Эдвард Адынец.

Упершыню ў нашай папулярнай літаратуры асвятляюцца рэаліі і абставіны гаспадарчага жыцця беларускага мястэчка. Вось, напрыклад, як выглядалі заробкі прыгонных сялян і чынш напярэдадні рэформы 1861 года: «Многія сяляне павета плацілі параўнаўча вялікі чынш грашыма — ад трох да чатырох рублёў серабром у год. Каб уявіць гэтую суму, можна прывесці той факт, што конь каштаваў 25 рублёў, арандатары плацілі работніку па 8—10 рублёў серабром у год, давалі пры гэтым адзенне і харчаванне. Падзёншчыкі за дзень зараблялі: касец — 20 капеек, жняя на жыццё — 15 капеек, аратай — 30 капеек». Звесткі па эканамічнай гісторыі не часта сустракаюцца і ў нашых гістарычных працах. Наогул, мы цьмяна ўяўляем сабе тагачасныя эканамічныя паказальнікі, і таму можна лічыць за вартасць кнігі, што аўтар пазнаёміў чытача з гальшанскімі кірмашамі, промысламі мясцовага жыхарства «чырвонымі гандлямі» і г. д.

Ёмісты па фактах раздзел, прысвечаны паўстанню 1863 г., Э. Корзун называе знойдзеныя ў архівах прозвішчы мясцовых інсургентаў, апавядае пра начальнікаў атрадаў К. Ясевіча, Г. Чаховіча, С. Мінейку. Апошні пасля падаўлення паўстання царскімі войскамі эмігрыраваў у Грэцыю, дзе стаў вядомым археолагам. Сучасны грамадскі дзеяч Грэцыі А. Папандрэу — ягоны ўнук.

Шырока паказаны аўтарам удзел гальшанцаў у рэвалюцыйным руху, грамадзянскай вайне. Зацікавіць чытача біяграфія ўраджэнца Гальшан К. К. Стрыеўскага, бальшавіка, які ў кастрычніку 1917 года ўзначальваў рост захопу Цэнтральнай тэлефоннай станцыі ў Петраградзе. Потым К. Стрыеўскі быў членам ЦК УКП(б) і ЦВК СССР.

Апісвае Э. Корзун эканоміку гальшанскай гміны часоў белапольскай акупацыі, згадвае творчасць пісьменніка Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага) і журналіста А. Сцефановіча, знаёміць з дзейнасцю падпольшчыкаў - камуністаў, кружкоў Грамады, клуба «Змаганне», Таварыства беларускай школы. Насычаны фактамі і прозвішчамі раздзелы, прысвечаныя партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, вызваленню Гальшан войскамі Чырвонай Арміі, пасляваеннаму сацыялістычнаму будаўніцтву, справам сённяшняга дня.

# ЧЫТАЕМ І ПАРАЎНОЎВАЕМ

*Э. Корзун. Гальшаны. Мінск, 1987. На рускай мове.*
*А. Бароўскі, Ю. Герасіменка. Квітнеюць над Прыпяццю сады. Мінск, 1987. На рускай мове.*

Здавалася б, мінулае Мазыра, горада не менш старажытнага, чым Гальшаны, давала падставы стварыць змястоўны гістарычны нарыс. Здавалася б, што такая мэта павінна была стаць і справай гонару для аўтараў — упершыню паказаць чытачу шырокую панараму мазырскай мінуўшчыны і сучаснасці. Але, на жаль, той магчымасці, якую дало выдавецтва, аўтары А. Бароўскі і Ю. Герасіменка не скарысталі. Ужо сама «палкая» назва кнігі — «Квітнеюць над Прыпяццю сады» — сведчыць пра неакрэсленасць зместу і жанру выдання, бо сады квітнеюць і над Нёманам, Ясельдай, Дзвіной, Амазонкай. Маючы малыя веды па гісторыі Беларусі ўвогуле і адрывістыя звесткі з мазырскай старажытнасці, аўтары скіраваліся на выратавальны шлях белетрызацыі тых некалькіх тэзісаў, якія змяшчае артыкул «Мазыр» у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. «Мастацкая» апрацоўка нешматлікіх фактаў зацягнула туманам няведанне аўтарамі рэальнай мазырскай гісторыі. Не прыходзіцца дзівіцца, што старонка тэксту пра Мазыр у Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі насычана фактычным матэрыялам болей, чым чатыры аркушы «Квітнеючых садоў...» Па праўдзе кажучы, робіцца не па сабе, калі бачыш на першай старонцы кнігі, як ад чатырох стагоддзяў пачатковай гісторыі Мазыра аўтары адкараскаліся двума абзацамі тэксту. Ды і такога, трэба заўважыць, тэксту, у якім блытаніна спалучаецца з малапісьменнасцю. Вось, у якасці ўзору, маленькі ўрывак «краязнаўчага» апісання: «У XIV стагоддзі Мазыр увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага, у 1569 годзе — у склад Мінскага ваяводства. Горад рос, уздымаліся жылыя дамы, майстэрні рамеснікаў (рамеснікі складалі большасць гарадскога насельніцтва), збудоўваліся ўмацаванні. Акрамя працоўнага люду, у Мазыры жылі святары, манахі, у замку — ваяводы, намеснікі, узброеныя слугі». На такім узроўні падаецца і ўвесь далейшы матэрыял. Пра мазырскую мінуўшчыну XII стагоддзя — два словы, пра Кіеўскае ваяводства, пра падставы адміністрацыйнай рэформы, мазырскіх намеснікаў, напады крымскіх татар, удзел мазыран у паходах, тапаграфію горада, герб, тагачасную культуру, гістарычны фон, вытворчасць кафлі, шкла, керамікі — аніводнага слова. Аўтары прайшлі, як кажуць, «галопам па Еўропам», робячы прыпынкі на падзеях, пазначаных энцыклапедычнымі артыкуламі: паўстанне 1615 года, паўстанне 1649 года. Да гэтых «палотнаў» дадзена па абзацу пра вядомага утапіста Юзэфа Яленскага, кіраўніка паўстанцаў Мазыршчыны ў 1863 годзе Антона Яленскага і пра суд над мазырскімі памешчыкамі-казнакрадамі. Уявіць сабе

# МЕСЦА, ЯКОЕ ЁСЦЬ...

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

Зямлі, нейкім перакосе ў гэтай страшнай гульні фантазіі, поўнай няўзгодненасці з мараллю і філасофіяй самога жывога чалавека. Ды гэта мы ўжо чулі, не толькі ў крытыцы, але і ў колах, так сказаць, дэмакратычных, чытацкіх, пра аповесць «Карнікі». Чулі, што кніга шкодная, характары ў ёй матэматычна распрацаваныя, што творца як чалавек палохае, што пасля прачытання не верыш самому сабе. А з другога боку—супрацьлеглае: «Трэба моцна верыць у добры пачатак чалавека, каб расказаць чытачу і **такое...»** («Вобраз, 86»). Прайшоў час, і трывала ўсталявалася гэтае, другое. Але часу ўсё менш і менш, хтосьці павінен рызыкнуць і стаць першым, хтосьці павінен ўголас, гучна расказаць і пра «многаадсекавага чалавека». Пра кожнага з нас.

Размова аб так званым «многаадсекавым чалавеку» ўяўляецца сэнсавым цэнтрам «Апошняй пастаралі». Прынамсі, пасля яе многае праясняецца. У кожным чалавеку, успамінае падводнік расказ-ідэю свайго памочніка, адэсіта, размяшчаюцца тры каманды, па адной у адсеку. Усе каманды маюць свае мэты, свой курс. Адсек нумар адзін —«песні і танцы», вясёлае сытае жыццё; адсек нумар два—«дзэталюбцы», а трэці адсек—нехта. Чалавек-ідэя, які «даўно і назаўсёды выбраў: не субота для чалавека, а чалавек для суботы!» Гэты трэці, «ідэолаг», людзей на ногі ставіць і пра шчасце «любых другіх чалавечых грамадстваў менавіта як чалавечых» клапоціцца. Другая справа, «наколькі тое ці іншае грамадства сапраўднае дзеля агульнага шчасця». Але што тут атрымаецца—«не адразу ўгадаеш: храм братэрства ці піраміда, помнік да нябёсаў на славу «арганізатара работ». Будавалі храм—атрымлівалася піраміда, бо вуліца Варлама не можа весці да храма, але яна існуе ў свеце і, значыць, кудысьці ўсё-такі вядзе. Са смуроду хатынскіх пажарышчаў — за жалезныя дзверы на востраве: «Толькі з жалезнымі палкамі — тыя, здаецца, не мяняліся. Шнырылі, як пацукі, па цёмных кутках, адшуквалі **ўчарашніх, чужых** і наогул **лішніх»**, праломвалі ім чарапы, дабівалі, каб яны не дыхалі, не забіралі паветра, якога не хапала, амаль не было.

Пастаянная барацьба трох каманд і ёсць гісторыя чалавека на Зямлі... «Цяпер зразумела, чаму ніяк не маглі ўжыцца. Калі ў сабе ніякага міру, які ж—з іншымі?» — скажа Яна і зробіць адкрыццё, якое ўжо было зроблена. У Льва Талстога: «Задача чалавека ў гэтым жыцці адмовіцца ад усяго супярэчлівага ў самім сабе», інакш ён «знішчае сябе, як знішчае сябе ўсялякая супярэчнасць». Праз многа гадоў гэтую думку падхапіў і абараніў Ф. Абрамаў, непахісны паўночны затворнік: «...аднымі сацыяльнымі сродкамі немагчыма абнавіць жыццё, дасягнуць жаданых вынікаў».

Патрэбен адначасова другі спосаб. Гэта самавыхаванне, будаўніцтва сваёй душы... самаправерка сваіх жаданняў вышэйшым судом, які дадзены чалавеку, — судом уласнага сумлення».

Так, чалавек — гэта цэлы свет, але і да свету трэба ставіцца, як да чалавека. Проста «не рабі другому, чаго не хацеў бы самому сабе». Але гэтую падказку можна пачуць толькі з чацвёртага адсека пад назвай «Свістаць Усіх Наверх!», па-навуковаму — інстынкт самазахавання асобіны, а пра яго нават забыліся напачатку. Былі тры адсекі, як тры зямляніны на востраве. А чацвёрты адсек — гэта, відаць, ужо не героі. Інстынкту самазахавання ім і не хапіла. У рэшце рэшт аказваецца, што яны і ёсць... яны, а няма—інстынкту (не памыліўся Вялікі Драматург: з трыма персанажамі наглядней). Надта дужы «ідэолаг», і ягоныя героі «паміраюць прыгожа, размаўляюць доўга», не ў прыклад баязліўцу-інстынкту.

Паспрабуйце даць яму «дэфіцытны статус інстынкту самазахавання роду чалавечага», якім (інстынктам самазахавання роду) матуля прырода надзяліла ўсё жывое, акрамя чалавека. Крышачку недагледзелі—і вось вам, пацалункі з варожым бокам. Абрадаваліся госцю! І радасць нейкая біблейская: «І вось увесь горад выйшаў насустрач Ісусу» (у эпіграфе) — «і ўступіла мне гэтую радасць — абняцца з чалавекам. Дадумаліся: Чалавек-Бог. Містыцызм. А гэта пра «рэдкія і нехарактэрныя выпадкі ўзаемазнішчэння ўнутры віду, які ўвасабляе сваю відавую мудрасць у паводзінах сваіх істот» — біялагізм, няважна, што вычытана не ў «ненармальнай» «Апошняй пастаралі», а ў «нармальным» «Кар'еры». Ну, а гэта здольны быў напісаць толькі Леў Талстой: «Так натуральна радавацца кожнаму чалавеку пры выглядзе другога; натуральна, убачыўшы швейцара, які адчыніў дзверы, так быць радым яму, што цалаваць яго руку». Непраціўленцу даравальна.

Камандзіру трэцяга адсека не дакажаш, што леваму воку патрэбна правае, а праваму—левае. Па. загаду такіх, як ён, пяцьсот тысяч воінаў Хабара і Каско з фантастычнай аповесці В. Сянкоўскага будуць абараняць «крывёю і жыццём славалюбства сваіх правадыроў, ганарыстасць сваіх суграмадзян і недатыкальнасць невялікага кавалка зямлі, непатрэбнага іхнім правадырам, суграмадзянам і ім самім», пакуль агромністая камета не вырашыць усе спрэчкі і не паплывуць па моры трупы-бярвёны абедзвюх рацяў разам з «высакамоўным словам, складзеным напярэдадні бітвы для распальвання храбрасці воінаў».

Аднак хваляванні ў трэцім адсеку дарэмныя. «Калі вораг не пакараецца, яго знішчаюць», — гэта яшчэ не забыта. А калі ён, апранены астранаўт, Каін-імпатэнт, украў каханне і пераўтварыў Яе з Усежанчыны ва Усемедзю, забойцу не народжаных Ёю дзяцей, і іх каханне—змова супраць жыцця, дык як з ім быць? «Свету быццам бы і не засталося, але сусветныя праблемы, як гэта ні дзіўна, застаюцца». Сіндром гістарычнай праваты жывучы, і «гуляць у шашкі з самім сабой» не на гэта адказваць: «...ці заўсёды частка менш за цэлае? І ці заўсёды меншым можна ахвяраваць?.. Не націснуць, калі другія ўжо націснулі? Не помсціць усяму жывому на Зямлі толькі за тое, што хтосьці і дзесьці не здолеў дамовіцца?» І ўжо падстаўлены грудзі пад кулю на дуэлі (сумленна і прыгожа, як у героя «ідэолага»), і выбраннік лёсу — Трэці — цэліць у палову чалавецтва, і Ён хоча крыкнуць: **Яна (каханая імі жанчына.—І. А.) шукае нас!** Нас, нас шукаюць!», ды чамусьці не можа, бо на дзвярах чацвёртага адсека нехта падрыхтаваўся намаляваць: «Баязлівец!». І зноў: «Усе правыя — вінаватыя!.. Усе вінаватыя — правыя!»...

Невыпадкова сказана ў старажытных пісьмёнах: таму, хто захоча пакараць Каіна, адпомсціцца ў сем разоў... Быў стрэл да стрэлу, і ён трапіў у жыццё. Апошняя на Зямлі жанчына памірае бездапаможнай, пачварнай Старой...

Хопіць. Ці быў хлопчык? Вядома, што утопія ў перакладзе з грэчаскай—«месца, якога няма». Антыутопія сутнасці паняцця не змяняе. Аднак пра пастараль А. Адамовіча гэтак не скажаш, ды і сам жанр пастаралі—не толькі забавы кахання на ўлонні прыроды. Ну, куды гэтаму жанру без галантных дыспутаў «пастушкоў»? Але каб ацаніць «галантнасць» і «вытанчанасць», трэба нешта разумець. І разумеем, бачым у самых рэальных абрысах: «—Каму цяпер патрэбны вашы сацыяльныя эксперыменты?.. — А вашы правы на выезд—каму? ...—Ды ў каго б вы хлеб куплялі?—А каб не было па суседству сацыялізму, дзяліліся б з вамі вашы багацці? А ўжо трэці свет!.. — Вашы бюракраты... — Вашы лепшыя?»

Гэта зразумела, але месца, само месца — **такое?** Сапраў-

агульны малюнак мазырскай даўніны, яе асаблівасці, зацікавіцца горадам па кнізе немагчыма. Не думаю, што аўтары *зрабілі гэта наўмысна*. Пададзены імі спіс выкарыстанай літаратуры даказвае, што яны не ведалі дзе шукаць патрэбныя звесткі. Усе грунтоўныя даследаванні па гісторыі Беларусі засталіся па-за межамі іхняй увагі.

Больш пашанцавала падзеям нашага стагоддзя, паколькі тут матэрыял распрацаваны даследчыкамі, і багатыя фонды мае мазырскі музей, але і тут карысная інфармацыя патанае ў моры агульных слоў, пейзажных замалёвак, працоўных характарыстык. Уражанне такое, што апошнія раздзелы складзены з колішніх газетных публікацый. Да таго ж немагчыма зразумець, чаму ў кнізе няма здымкаў хоць бы такіх вядомых людзей, як В. Харужая, І. Дудакоў, К. Марціновіч, мазырскіх партызан, разбуранага ў вайну і адроджанага горада. Канчаецца кніга радкамі пра мары мазыран: «Цяперашнім жыхарам горада хочацца ўбачыць адбудаваны Каралеўскі замак, марыць яны аб музеі гісторыі Палесся, шырокім *пешаходным мосце цераз* Прыпяць, аб новых басейнах, стадыёнах, спорткомплексах і нават пра метро».

Узнёсласць агульных слоў, уласцівая, як апошнім, так і большасці іншых старонак кнігі, толькі падкрэслівае недахоп канкрэтыкі, кампетэнтнасці ў адлюстраванні гістарычнага мінулага Мазыра. Даведацца пра мінуўшчыну горада «Квітнеючыя сады...», на жаль, чытачу не дапамогуць. Пра гэта можна толькі пашкадаваць.

Будзем спадзявацца, што ў наступных выданнях серыя возьме за эталон лепшыя свае здабыткі, сярод якіх знаходзяцца, на нашу думку, «Гальшаны» Э. Корзуна.

**К. МАТУСЕВІЧ.**

---

ды, за краем свету гэтае месца не адшукаць. Там яго няма, бо яно побач, у нас саміх —пераступі нябачную мяжу.

У артыкуле «Маяк над бурай» («Правда», 1987, 2 красавіка) М. Патапаў прызнаўся: «І тут пытанне: ці пройме напісанае чытача, ці адчуе ён гэтае самае «звыш»? Скажу пра сябе: не праняло».

Тэатр — мастацтва ўмоўнае, а аўтар «Апошняй пастаралі» быццам знарок падкрэслівае: «Усё ў руцэ Вялікага Драматурга — і сцэна, і акцёры, і рэжысура». Альбо класічнае: «Значыць, зброя ўсё-такі стрэліць, калі зноў з'явілася на сцэне». Але ўмоўнасць не бязмежная і тэатральнасць маскіруе не гульню: «Скошаны пахучы лужок перад музеем: «Цікава, колькі тут мілірэнтгенаў?»... Дзяўчынка нясе дзве бутэлькі малака: «Хто, хто даў ёй гэтыя гранаты?»

Чародка шумных дзетак-школьнікаў убегла ў вагон метро, і аб чым падумалася? Аб шчытападобных жалозках, аб маленькай печані, аб тых жа рэнтгенах, мілібэрах, дзіцячыя клеткі іх уцягваюць, як губка...» Хто ведае гэта, таго «пройме».

Фінал. «Святло патухла, апусцелі і сцэна, і глядзельная зала». На святло, на святло!.. «Выдумалі нейкую там радыяцыю!» Вось яно, поруч. Жыве, існуе: раса да каленаў, холад у мокрым яловым лесе, зоркі, былінкі і тысячы, тысячы людзей! Спыніся, імгненне!..

«Спыніся, імгненне!» — паўтараю, крычу на другім годзе новай эры (па чарнобыльскаму летазлічэнню), а палескія сосны адпяваюць апошнюю пастараль...

Іван **АФАНАСЬЕЎ.**
г. Гомель.

---

## ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ




# «...ПРАЎДА ЗАСТАНЕЦЦА»

ПААСОБНЫЯ з артыкулаў, якія ўвайшлі ў кнігу публіцыстыкі Васіля Быкава «Колокола Хатыни»— *яе выпусціла выдавецтва* «Правда»,—перад гэтым змяшчаліся ў зборніку «Праўдай адзінай», які пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1984 годзе. Аднак нямала ў ёй і публікацый, што вядомы чытачу толькі па заключнаму тому Збору твораў пісьменніка, выдадзеным «Молодой гвардией». Такім чынам, ёсць падстава гаварыць аб арыгінальным выданні, асабліва, калі ўлічыць, што ў параўнанні з кнігай «Праўдай адзінай» «Званы Хатыні»—старонкі быкаўскай публіцыстыкі, якія зместам сваім у асноўным закранаюць дзве важныя тэмы сучаснасці — тэму мінулай вайны і тэму барацьбы за мір. Калі ж шырэй — месца пісьменніка ў сучасным свеце, дзе на парадак дня пастаўлена пытанне: быць ці не быць у далейшым самому чалавецтву.

Для разумення Быкава-публіцыста, адметнасці яго почырку, творчай індывідуальнасці шмат дае прадмова Ігара Штокмана «Вечная сіла праўды», напісаная як свайго роду міні-партрэт пісьменніка. Гаворачы *пра месца і ролю* Быкава ў літаратуры, І. Штокман значнасць яго публіцыстыкі вытлумачвае значнасцю быкаўскай прозы, бачачы — і не без падстаў на тое — у ёй сцвярджэнне тых паняццяў і крытэрыяў, якія ў артыкулах знаходзяць далейшы працяг.

Імкненне да праўды для Быкава — імкненне да высокіх ідэалаў дабра і справядлівасці і адначасова асуджэнне подласці, няшчырасці, здрадніцтва. Тое, чым напоўнены яго аповесці, у прыватнасці «Кар'ер» (дарэчы, І. Штокман знаходзіць месца, каб сказаць ухвальнае слова і пра гэты, адзін з самых апошніх твораў пісьменніка, так што застаецца толькі парадавацца аператыўнасці і дасведчанасці крытыка) скразной ніццю праходзіць і праз нарысы, артыкулы. Больш таго, у паасобных з іх стылістычна прысутнічаюць элементы быкаўскай прозы: настолькі ўражліва падаюцца малюнкі ваеннага *побыту і такая «аголеная»*, але неабходная ўсім нам праўда вайны. Як, скажам, у нарысе «Пад Кіраваградам». Чытаеш і быццам старонкі аповесці перагортваеш: «Яны расстрэльвалі нас, метадычна, акуратна пасылаючы па снараду ў кожнага байца, і праз чвэрць гадзіны замест нашага ланцуга на снезе чарнеў рад крывавых разрываў з раскіданымі вакол камякамі мёрзлай зямлі...»

Васіль Быкаў таксама піша пра творчасць пісьменнікаў, светаадчуванне якіх блізка яму, хто, як і ён сам, у творчасці сваёй пастаянна знаходзіцца на рубяжы, дзе вядзецца, няхай і не заўсёды бачны, бой за праўду, справядлівасць: Юрыя Бондарава («На рубяжах дабра і любові»), Грыгорыя Бакланава («Вернасць памяці»), Алеся Адамовіча («Сілай любові і нянавісці») і іншых. Ён звяртаецца і да твораў тых, хто займаецца іншымі галінамі мастакоўскай дзейнасці, *прыкмячаючы* адметнасць почырку народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага («Палотны, апаленыя вайной»), адзначаючы «незвычайнасць таленту, неспакойнасць духу, поўнага боляў і пакут нашага веку» кінарэжысёра Ларысы Шапіцькі («Памяці мастака»), гаворачы аб плённым асэнсаванні пісьменніцай Святланай Алексіевіч і кінарэжысёрам Віктарам Дашуком тэмы вайны ў фільме «У вайны не жаночае абліччa» («Тое, што стала жыццём і лёсам»).

Перад усім — «Слова пра настаўніка», у якім паўстае прывабны воблік Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага, паэта і чалавека, што аказаў вялікі ўплыў на творчы і грамадзянскі лёс Быкава.

Піша пра Твардоўскага Быкаў і ў артыкуле «Усё мінецца, а праўда застанецца...», прыгадваючы надзвычай цяжкі момант у сваім жыцці, калі «град безапеляцыйных крытычных прыгавораў не пакідаў сумнення ў поўным краху, пачуццё сораму і абражанага самалюбства выклікала жаданне пайсці ў сябе, замкнуцца, адасобіцца ад людзей — перажыць няўдачу цярпліва і моўчкі». «І вось у такія хвіліны горкаснай тугі,—працягвае Быкаў,— якраз напярэдадні майскіх святаў, прыйшоў з Масквы невялікі канверт з рэдакцыйным грыфам звонку і віншавальнай паштоўкай знутры — звычайнае рэдакцыйнае пасланне аўтару перад святам, некалькі надрукаваных на машынцы радкоў з выказваннем прывітання, ніжэй якіх характэрным вуглаватым почыркам было напісана: «Усё мінецца, а праўда застанецца. А. Твардоўскі».

Гаворачы сёння аб перабудове, суадносячы пэўныя аспекты яе з літаратурнай творчасцю і шырэй — мастакоўскай дзейнасцю ўвогуле, ці не зашмат мы ставім у заслугу некаторым пісьменнікам тое, што яны, маўляў, «перабудаваліся». Кніга В. Быкава гаворыць, што яе аўтару перабудоўвацца не трэба было. У артыкулах, напісаных яшчэ колькі гадоў назад, размова ідзе *пра тыя праблемы*, да якіх літаратура паступова паварочваецца сёння.

Чытаем, напрыклад, артыкул «Галоўны жанр літаратуры» (1982): «...усё больш схіляешся да адзіна разумнай магчымасці рэалістычнага мастацтва: паказаць чалавеку чалавека такім, якім ён ёсць, і хай ён вырашае сам, якім яму быць. Хай ён сам і выбірае свой лёс, альтэрнатыўнасць якога ў наш час вызначаецца гранічна проста: жыць або памерці». Крыху раней (*«Усё, што мы можам»*, 1981) пра гэта было сказана так: «Мы можам тое, што мы ўмеем: пісаць. Усе мы жывём у свой час, і ці благі ён, ці добры — для нас іншага няма. І мы павінны выканаць наша, як бы сказалі ў даўніну, «боскае ўказанне» — пакінуць пасля сябе сведчанне аб гэтым часе... Галоўнае, я думаю, мы павінны рабіць сваю справу сумленна і як мага лепш. Без спешкі. Без ліслівасці і хітрасці. Без жадання патрафіць у што б там ні было. Мы павінны памятаць, чым заканчваліся самыя вытанчаныя спробы на гэты конт».

Сапраўды ўжо: «Усё мінецца, а праўда застанецца». Гэтай праўдай — самога жыцця, літаратуры — і напоўнена новая кніга Васіля Быкава, якую ўспрымаеш і як споведзь слыннага майстра слова, і як запрашэнне да дыялогу аб важнейшых маральных і ідэйна-эстэтычных каштоўнасцях часу.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

---

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# САПРАЎДЫ ДЗІЎНА

Мы ўжо прызвычаіліся да таго, што ў наш час, калі запанавала галоснасць, крытыка вядзецца адкрыта і аргументавана. Прама называюцца прозвішчы, указваюцца працы, якія выклікаюць пярэчанне.

Вось чаму я з вялікім неўразуменнем прачытаў наступнае месца з артыкула Алеся Бажко «Даводзіцца толькі здзіўляцца», апублікаванага ў ліпені г.г. у многіх беларускіх газетах, у тым ліку і абласных: «Ці трэба гаварыць, што любая часопісная або газетная публікацыя аб нібыта бяскрыўднай патрыятычнай асветніцкай дзейнасці гэтага духавенства, як правіла, заўсёды спрытна выкарыстоўваецца ў якасці прыкрыцця ад выкрывальніцкай крытыкі дасведчаных савецкіх і прагрэсіўных зарубежных гісторыкаў і публіцыстаў. Мне непасрэдна вядома, што нават рассакрэчаныя Джонам Лофтусам амерыканскія дакументы, звязаныя з крывавай дзейнасцю белбурнацаў і іх духавенства, калі не зусім, дык амаль цалкам былі прыглушаны далёкімі ад гістарычнай праўды дарожнымі нататкамі пра беларусаў за Ла-Маншам аднаго нястомнага мінскага вучонага даследчыка і падарожніка». Хаця — наперакор прынцыпам галоснасці — прозвішча таго «вучонага» аўтарам артыкула і не названа, здагадацца, у чый агарод тут здзеклівы камень, усім вельмі лёгка, бо толькі я ў свой час, пасля навуковай камандзіроўкі ў Англію, пісаў «пра беларусаў за Ла-Маншам» (артыкул у «Голасе Радзімы» так і называўся: «За Ла-Маншам, сярод беларусаў»).

Але ж у той даўняй публікацыі 1984 года пра кніжку Лофтуса не сказана... ні слова! Ні слова пра яе няма таксама ў маім «Оксфардскім тыдні» («Літаратура і мастацтва», 1983) і «Англійскім дзённіку», які друкаваўся ў «Полымі» ў 1985 годзе.

Дык адкуль жа тады ўсплылі такія гучныя абвінавачванні?

Ды з **рукапісу** таго ж «Англійскага дзённіка». Алесь Бажко рэцэнзаваў яго па просьбе «Полымя», даў рэзка адмоўную яму ацэнку. І калі «Англійскі дзённік» усё ж пабачыў свет, у ім не аказалася і мясціны пра кнігу Лофтуса. Дзеля высвятлення ісціны дазволю прывесці яе тут: «Трэба, урэшце, прыгадаць яшчэ адно выданне, хаця гаворка ў ім ідзе не пра слаўныя, а пра **бясслаўныя** справы беларусаў. Я маю на ўвазе кнігу амерыканскага юрыста Джона Лофтуса «Сакрэт «Беларусі», толькі што выдадзеную ў ЗША. Расказваецца ў ёй пра беларускіх нацыяналістаў, якія ў часы фашысцкай акупацыі арганізавалі вайсковую адзінку «Беларусь», а цяпер знайшлі прытулак у ЗША. Наколькі я ведаў з нью-йоркскага «Беларуса», Лофтус прама абвінавачваў Дзяржэпартамент і Міністэрства абароны ў тым, што яны прыгрэлі злачынцаў, прыкрываюць іх ад адказнасці. «Беларус», вядома, лічыць кнігу паклёпам, заклікае збіраць сродкі, каб судзіцца з аўтарам. Але ж чорнае не назавеш белым. Сапраўды існавала такая вайсковая частка і сапраўды некаторыя яе ваякі схаваліся ў Амерыцы...

Сёння я бачыў гэтую кніжку ў сценах бібліятэкі, хацеў пачытаць, каб ва ўсім разабрацца самому. Але мяне далікатна так адгаварылі: маўляў, аўтар карыстаўся сенсацыйнымі мэтамі, многае перабольшыў, таму не варта губляць на такую кніжку час. Падумалася: відаць, не жадаюць, каб я вынес смецце з эміграцкай хаты».

Дык дзе ж тут «прыглушэнне» «рассакрэчаных Джонам Лофтусам амерыканскіх дакументаў»?!

А цяпер два пытанні Алесю Бажко. Першае: ці сумленна крытыкаваць кагосьці, няхай і не называючы прозвішча, за тое, што ім не было апублікавана?! Другое: навошта спатрэбілася А. Бажко выдаваць белае за чорнае, прыдаваць неапублікаванаму адваротны сэнс?! Адносіны да кнігі Лофтуса ў мяне адназначныя — станоўчыя. Што і відаць з прыведзенай вытрымкі, якая ёсць не толькі ў мяне, але і ў рэдакцыйным архіве «Полымя».

**А. МАЛЬДЗІС,**
**доктар філалагічных навук,**
**лаўрэат Дзяржаўнай**
**прэміі БССР.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Адначасова з адказам А. Мальдзіса рэдакцыя атрымала наступны ліст з Мазыра. «Прачытала ў газеце «Знамя юности» за 23 ліпеня артыкул пісьменніка А. Бажко пад інтрыгуючым загалоўкам «Даводзіцца толькі здзіўляцца», — піша І. Сірэнькова, урач мазырскай дзіцячай паліклінікі № 1. — Калі верыць аўтару, дык здзіўляцца як быццам ёсць чаму. Толькі, праўда, *я не* ўсё зразумела і хацела б сёе-тое ўдакладніць. Пісьменнік кляйміць ворагаў нашага ладу і паведамляе, што адзін з іх нейкі Луцкевіч «вылез напаказ у «ЛіМе» ў якасці «вучонага з Вільнюса». Хацелася б спытацца, як гэта «вылез напаказ»? Калі і як вы яго паказвалі? Фотаздымак яго давалі? Артыкул або нарыс быў пра яго, ці што? І другое пытанне: пра які Вільнюс гаворыць А. Бажко — пра стары, дарэвалюцыйны, ці пра наш, савецкі? Калі пра наш, то *як Луцкевіч там аказаўся і што ён там* робіць? *Прашу адказаць*». Мусім даць тлумачэнне. Тым больш, што прыблізна такога ж зместу водгук прыслаў і наш мінскі чытач археолаг І. Сінчук, што падобныя пытанні адрасуе нам чытач газеты «Советская Белоруссия» (нумар за 31 ліпеня). Ні артыкула, ні нарыса, ні фотаздымка штотыднёвік, вядомая справа, Л. Луцкевічу не прысвячаў. Не друкаваў ён і ніякага яго выказвання. Адкуль сыр-бор? У свой час, а дакладней у чэрвені 1985 года газета паведамляла пра свята паэзіі ў Ракуцёўшчыне, прысвечанае Багдановічу, і ў ліку тых, хто выступаў на свяце, назвала і Л. Луцкевіча. Быў пералік, была канстатацыя, і больш нічога. Такі факт. Стары, больш чым двухгадовай даўнасці. Але з нейкай мэтай выцягнуты ў падтасаваным выглядзе на святло. З якой? Чаму чытачам не ўсё зразумела ў артыкуле А. Бажко? Чаму ён тут не ўсё гаворыць, недагаворвае? У тым ліку і адносна таго факта, як і адкуль прыязджаў у Ракуцёўшчыну Л. Луцкевіч? Разам з чытачамі мы былі б удзячныя А. Бажко, каб ён у сваім выступленні менш «здзіўляўся» і больш гаварыў па сутнасці. У гэтым было б больш сэнсу, чым вышукванне «крыміналу» ў тым альбо іншым літаратурным выданні. Бо, як днямі нагадала нам «Правда» ў артыкуле «Культура дыскусій», «Наклейванне ярлыкоў, ды яшчэ з палітычнай афарбоўкай» — *не лепшы спосаб у змаганні за ісціну, за нашыя ідэалы і каштоўнасці.***

## ТЭАТР

# БЕГ ТРУШКОМ

**«Спартыўныя сцэны 1981 года» Э. Радзінскага ў Гомельскім абласным драматычным тэатры**

ДЗВЕ шлюбныя пары, адна зусім юная, другая ў сталым узросце,— усе чацвёра па сваіх учынках людзі дастаткова несімпатычныя,— аб'ядналіся на кароткі час вакол нейкай агульнай ідэі і прадсталі перад гледачамі без «адзення», якое іх упрыгожвала б. Сучасныя людзі займаюцца досыць сучасным і нават модным заняткам — бегам трушком. Аднавіць здароўе, а заадно абцяпаць сякія-такія справы... Вось і ўвесь сюжэт п'есы Э. Радзінскага «Спартыўныя сцэны 1981 года».

П'еса пабудавана так, што ўжо ў першых эпізодах усё пра герояў сказана ясна і недвухсэнсоўна. Яны самі не скупяцца на самахарактарыстыкі і выяўляюць сябе з цынізмам людзей, упэўненых у тым, што пакарання за мінулае і зробленае не будзе. Больш таго, яны не намераны нічога мяняць ва ўласным жыцці. Ніякага сораму і раскаяння. Здаецца, што перад намі варыянт драмы, якая не мае патрэбы ў моманце катарсісу. Здаецца, што іграць далей? І вось тут ад рэжысёра, які ўзяў п'есу, патрабуецца дакладны адказ «дзеля чаго», «у імя чаго».

Тэатральная грамадскасць дастаткова дасведчана аб спектаклі маскоўскага тэатра імя Ярмолавай, які першым паставіў гэтую паблукаўшую па інстанцыях п'есу, а цяпер іграе яе з велізарным поспехам. Яшчэ ў 1981 годзе Радзінскі расказаў пра так званых дэфіцытных людзей, для якіх у нашым грамадстве не існуе ніякіх праблем. Усё могуць дастаць. Усё могуць уладкаваць. Усё патрабуюць і ўсё атрымліваюць.

Сацыяльныя карані адлюстраваных у п'есе з'яў былі доўгі час у цяню. А без ускрыцця іх гаварыць у спектаклі аб непрыгожых учынках герояў як быццам бессэнсоўна. Але вось карані выяўлены, з'явы раскрыты ўсёй хадой нашага жыцця, і п'еса здаецца крыху застарэлай. Пры павярхоўным чытанні ўзнікаюць размовы аб пошласці тэксту, аб «брудзе», які зусім неабавязкова вывароч-ваць на гледача.

Сапраўды, ступень самавыкрыцця герояў уражвае. Нічога высакароднага ў іх жыцці няма і хутчэй за ўсё не будзе. Адкрытасць шакіруе. Але ж тое, што нарадзіла бездухоўнасць персанажаў літаратурнага твора, прадаўжае існаваць. Гаворым мы аб гэтым уголас, актыўна змагаемся, але адной галоснасцю не пераможаш матэрыяльную і чыноўную няроўнасць, вынаходніцкае ўменне ўладкоўвацца і жыць, нічога не аддаючы. Прадаўжаюць існаваць і людзі накшталт Міхалёвых і Сярожы з Кацяй, утвараючы ў нашым грамадстве ўнушальную праслойку, якая тармозіць прагрэс і замінае перабудове.

Адмахнуцца ад гэтага немагчыма. Застаецца вынесці на суд гледача. З усім «чорным» побытам. Няхай камусьці не хочацца слухаць пошлыя развагі герояў. Ад нашага нежадання чуць і ведаць жыццё не выправіцца, не зменіцца. Няхай ужо так, наводмаш. Ад процілеглага. П'еса не скажае сітуацыю і людзей, яна расказвае шчыра, без утайкі. Усё так здараецца. Але ж гэта задача мастака — паказаць сімптомы многіх сённяшніх сацыяльных хвароб.

Паколькі сацыяльны пафас гэтага драматургічнага матэрыялу пры сённяшнім выкрывальніцкім газетным буме некалькі звяў, існуе для тэатра небяспека — захапіцца бытавым бокам праблемы. Што і адбываецца часам. Для прыкладу назаву спектакль гродзенскага тэатра, дзе сямейны аспект яўна пацясніў сацыяльнае даследаванне. Гомельская рэжысура ідзе іншым шляхам — адмаўляецца ад усялякіх прасталінейных ацэнак, імкнецца расшыфраваць прычыны жорсткіх сямейных сутыкненняў.

І словы і паводзіны Міхалёвых, Каці, Сярожы — грубыя, вульгарныя. Пастаянна ўзнікае жаданне спыніць гэты стрыптыз: «Хопіць. Ну колькі можна?» Нянавісцю прасякнуты адносіны адно да аднаго абедзвюх пар. Чаго б прасцей — раз, і разбегліся. Але штосьці звязвае і прымушае прадаўжаць жыццё, трымаючыся адно аднаго. Што ж гэта?

Калі меркаваць па адказу, які дае спектакль гомельскага рэжысёра Я. Натапава, віновата не толькі сацыяльнае асяроддзе. Кожны з герояў нясе і асабістую адказнасць. Спісаць усё на абставіны проста. Можна нават «сарваць» апладысменты глядзельнай залы за тое, як падобна паказаны сямейныя спрэчкі і прычыны ўцёкаў «на бок». Каму не знаёмы здрады, адсутнасць жадання заводзіць дзяцей, пагоня за фірменнымі шмоткамі, прэстыжнымі машынамі. У простых чалавечых страсцях так лёгка забыцца аб маральных прынцыпах. Асяроддзе? Ну і дзякуй яму.

Спектакль гамяльчан цікавы і каштоўны тым, што бярэцца сцвярджаць — чалавек з высокім духоўным запасам выстаіць пры любых спакусах. Час перастаць спісваць усё на асяроддзе. Трэба зірнуць на сябе, сабе прад'явіць рахунак. Чалавек, які прывык даваць сабе паблажку, хутка зламаецца і будзе шукаць сабе апраўдання ў неспрыяльных абставінах.

Менавіта гэтак здарылася з Сярожам, ролю якога выконвае А. Рубцоў. Спектакль нараджае адчуванне, што гэты юны нашчадак забяспечанай і ўплывовай сям'і мог бы стаць неблагім чалавекам. Калі б паспрабаваў прад'явіць да сябе хоць які-небудзь маральны рахунак. Ён жа цалкам пазбаўлены ўласнай волі і мэты. Напэўна, грамадзянская безадказнасць дарослага мужчыны нараджае і сямейную няўпэўненасць. Сярожа — расліна, чый лёс поўнасцю ва ўладзе выпадку. Добрая рука яго падтрымае, злая — зламае, затопча. Расліна без назвы. Чалавек, а не асоба. Спадзяванне на лепшае і нават спачуванне з'яўляецца ў Сярожы не тады, калі ён будзе пакутаваць ад рэўнасці ці знявагі, а калі захоча штонебудзь зрабіць самастойна — напрыклад, выкрыкне, што абавязкова паступіць у гэты праклятьі інстытут. Гэта ключ да вырашэння спектакля.

Спектакль Я. Натапава трактуе п'есу Э. Радзінскага менавіта так: хопіць спісваць на наваколле, асяроддзе. Зірніце на сябе збоку, задумайцеся над сваімі ўчынкамі, якія ламаюць чужыя жыцці ды і вашыя ўласныя. За ўсё трэба адказваць перад грамадствам і перад самім сабой. Цяпер жыццё без адказнасці ўжо немагчыма. Такая рэжысёрская канцэпцыя спектакля.

Гомельская трактоўка істотна мяняе бачны пры чытанні пафас п'есы. Вастрыня ўзаемаадносін паміж «дэфіцытнымі людзьмі» тут як бы прыцішана. Падрабязныя тлумачэнні таго, як лёгка даваліся службовыя і любоўныя перамогі, адышлі на другі план. І гэта правільна. Думаю, што для гомельскага гледача, напрыклад, не так ужо важна смакаванне прыгод маскоўскай эліты. У яго свае праблемы і свае крытэрыі дапушчальнага і недапушчальнага. Ды і «мерседэсы», пра якія столькі гавораць персанажы, па Гомелі таксама не раз'язджаюць. Але затое ёсць, напэўна, нямала шлюбных пар, якія дзеля кар'еры адклалі нараджэнне дзіцяці, ёсць нямала маладых людзей, якія не задумваюцца над тым, што лёгкія сувязі растрачваюць былую любоў, а безадказнасць ламае лёсы. Спектакль — пра гэта.

На мове сілы ў гэтым спектаклі размаўляюць жанчыны. Інга і Каця вельмі жаноцкія і абаяльныя. Як далёка пайшла сучасная жанчына ад таго стэрэатыпу, калі мужчыну падпарадкоўвалі з дапамогай прасталінейнага ціску на псіхіку, самалюбства, аўтарытэт. У «Спартыўных сцэнах...» ёсць новы погляд на моцную пазіцыю ў гэтым свеце. Яна ад прэстыжных бацькоў, якія самі, сваёй працай і сумленнай, хоць і суровай барацьбой заваявалі становішча ў грамадстве. Дзеці і ўнукі гэтых вядомых людзей дэманструюць сваё духоўнае банкруцтва. І праз пакаленне яны карыстаюцца выгодамі. Аказваецца, што разбэшчваць здольна не толькі асяроддзе дзялкоў і махінатараў, але і светлая, наіўная ўпэўненасць, якая вызваляе ад адказнасці.

У Інгі Міхалёвай — такое жыццё. Пад промнямі чужых заслуг. А. Корхава стварае характар свецкай ільвіцы з дваранскім паходжаннем. Для яе няма нічога немагчымага. І ўсётакі менавіта яна з усёй чуйнасцю ўпершыню ўсур'ёз пачынае разумець, што за ўсё трэба плаціць. Мяккая і пругожая, актрыса лёгка спраўляецца з вульгарным і жорсткім тэкстам. Грубае, выкрывальнае да яе быццам бы не прыстае. Часам узнікае нават думка пра тое, што не ўсё сказанае —

## МУЗЫКА

# І ПЕСНІ МАЮЦЬ СВОЙ ЧАС

**Неабходнасць творчага ўздыму, пошуку новых мастацкіх ідэй дзеля зберажэння і развіцця народных традыцый у сучаснай беларускай эстраднай песні. Пра гэта гаварылася на навукова-практычнай канферэнцыі, праведзенай Міністэрствам культуры БССР, саюзамі пісьменнікаў і кампазітараў рэспублікі.**

З ДАКЛАДАМ на тэму «Беларуская песня: традыцыі, праблемы, перспектывы» выступіла навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Т. Дубкова. Яна засяродзіла ўвагу прысутных на вытоках сучаснай эстраднай песні. Кожны народ і кожны час маюць свае песні — гэта абумоўлена сацыяльнымі і ўласна мастацкімі працэсамі. І ўсякія песні маюць свой час — адны адыходзяць у нябыт; іншыя ўваходзяць у гісторыю і фарміруюць тое, што з'яўляецца традыцыямі жанру. Беларуская масавая песня фарміравалася ў нетрах савецкай музычнай культуры,— падкрэслівалася ў дакладзе.

У музыцы песні дыялектычна ўзаемадзейнічаюць інтанацыйны вопыт слухача, інтанацыйна-меладычны багаж кампазітара, нацыянальныя асаблівасці народнай творчасці, інтанацыйная сістэма нацыянальнай мовы. Звыклае, вядомае, пастаяннае ўтвараюць аснову стылю, ажыццяўляюць сувязь з папярэднім, утвараюць традыцыю, але пры пэўных умовах «звыклае, вядомае, пастаяннае» робяцца штампам, догмай. Гаворачы пра сувязь часоў і стыляў, вытокаў і набыткаў, тэндэнцый жанру і супярэчнасцей, характэрных для развіцця беларускай песні, дакладчык вылучыла тут узаемадзеянне з фальклорам. Гэтая традыцыя, аналагічная традыцыям у рускай, украінскай песні, мае ў песні беларускай неардынарныя праявы на ўзроўнях меладычным і ладавым («Лясная песня», «Радзіма, мая дарагая» У. Алоўнікава, «Песня пра Нёман» Н. Сакалоўскага, «Спадчына», «Дударыкі» І. Лучанка, «Марыся», «З кірмашу» У. Мулявіна, «Давай, пагаворым» Э. Ханка, «Палессе», «Кацярына» У. Будніка, «Ты, зямля мая», «Мілавіца» Л. Захлеўнага і інш.). Аднача-сова пашырэнне інтанацыйных сродкаў песеннага жанру адбываецца і пад уплывам замежнай песні, джазавай музыкі, іншых плыняў.

На жаль, сярод песень, што гучаць па радыё, тэлебачанні, з канцэртнай эстрады, занадта многа такіх, што не задавальняюць нават самых непераборлівых слухачоў. Занепакоенасць лёсам сучаснай песні адчувалася ў словах Т. Дубковай, калі яна гаварыла пра ахову народнага меладызму ад псеўдакультуры, псеўдамастацтва. Мы не давалі сабе клопату ў свой час падтрымаць тое, чым цяпер трэба ганарыцца. Знаходзіліся людзі, якія на тых, хто намерваўся растлумачыць наватарства «Песняроў», чаплялі бірку: «Вы супраць фальклору». Мы ж... не мелі часу падтрымаць гэты выдатны калектыў.

Рок-стыль мае права на існаванне і на самасцвярджэнне ў межах сваёй эстэтычнай сутнасці, але, на думку прамоўцы, не як сістэма пашыранага — аж да палітычнага — сэнсу. Стваральнікаў песні Т. Дубкова заклікала смялей выходзіць на адкрытую дыскусію ў абарону сваіх поглядаў, сваёй творчай пазіцыі — гаварыць з шырокай аўдыторыяй слухачоў.

На канферэнцыі выступіў паэт У. Карызна, які шмат працуе ў жанры песні. На яго думку, сучасныя беларускія паэты-песеннікі ў даўгу перад народам, яго суровай і велічнай біяграфіяй. Пакуль што магутныя зрухі, якія адбываюцца ў нашай краіне ў сувязі з перабудовай усіх бакоў жыцця грамадства, надта сціпла адчувальныя ў музычнай сферы, у песні. Змест многіх песень не вызначаецца сацыяльнай завостранасцю. Прамоўца адзначыў здабыткі і прафесійныя недахопы некаторых твораў на ваенна-патрыятычную, грамадзянскую тэматыку. Ён выказаў кампазітарам пажаданне — быць больш патрабавальнымі і ўважлівымі да тэкстаў будучых песень, не схіляцца перад безгустоўшчынай, прымітывам, шэрым рамяством «аматаршчыны», заклікаў да больш цеснага супрацоўніцтва, дзеля агульнай мэты, паміж секцыяй эстраднай музыкі Саюза кампазітараў БССР і членамі Саюза пісьменнікаў.

Пра выхаваўчыя функцыі песні гаварыў галоўны дырыжор Сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё БССР Б. Райскі. Нельга прапагандаваць дрэннае! Нельга па тэлебачанні, на эстрадзе для мільёнаў слухачоў і гледачоў паказваць бяздарнае, бо яно «бярэцца на веру» і ўспрымаецца як узорнае, вартае пераймання. Толькі сумеснымі намаганнямі выканаўцаў, кампазітараў, рэдакцый газет, радыё, тэлебачання разам з Міністэрствам культуры, канцэртнымі арганізацыямі мы зможам прадухіліць памылкі, прыняць кардынальныя рашэнні наконт далейшага развіцця беларускай эстраднай песні.

Пра асабістую адказнасць паэта, кампазітара, наогул мастака, яго жыццёвую, грамадзянскую пазіцыю, яго арганізатарскі талент; пра тое, што песеннай драматургіі сучасным кампазітарам і паэтам трэба вучыцца на ўзорах фальклору;

### ПРЭМ'ЕРЫ

У Петрапаўлаўска-Камчацкім абласным тэатры лялек адбылася прэм'ера п'есы «Пякла баба калачы» У. Ягоўдзіка і А. Пыжыка, напісанай паводле беларускіх народных казак. Рэжысёр-пастаноўшчык А. Шкілёнак, мастак Л. Краснова, музычнае афармленне А. Малкава і В. Фецісава, танцы паставілі Т. і І. Лучыхіны. Галоўныя ролі выконваюць артысты тэатра Г. Галіулава, Т. Аўраменка, А. Міронаў, С. Гарайнаў.



праўда. Ёсць, напэўна, у расказах Міхалёвай і бравада.

Каця (В. Вута) у гэтым спектаклі — узор знешняй дасканаласці, так званая фірменная дзяўчынка, якая лёгка гнецца, маральна і фізічна. Прафесійная тэхніка актрысы заслугоўвае ўсялякіх пахвал. Яе гераіні даступны найскладаныя гімнастычныя практыкаванні. Вута можа прамаўляць тэкст, стоячы ўніз галавой. Каця прыгожая, тонкая, спартыўная. Але яна, гэтак развітая фізічна, нерухомая духоўна. Адсутнасць гнуткасці розуму, адсутнасць інтэлекту, адсутнасць душы і здольнасці спачуваць — прычына яе гібелі як асобы. Парушана гармонія прыгажосці і душы. Цудоўная форма пазбаўлена дастойнага зместу. Перад намі пачварнае нутро.

Такая ж дысгармонія ў пары Міхалёвых. Толькі з той розніцай, што яны, у адрозненне ад Каці і Сярожы, арганічна нядольных на якія б там ні было ўчынкі,— увесь час энергічна ўчынкі здзяйсняюць. Муж робіць грошы і кар'еру. Жонка робіць уцехі і мужа. Таму распад іх сямейнага дуэта немагчымы. Занадта многім яны звязаны. Не любячы, не паважаючы, яны ўсё роўна пойдуць побач да канца. Яны патрэбны адно аднаму. Ты мне, я — табе. Такая «патрэбнасць» звязвае бязлітасна і па-злачыннаму моцна.

Акцёрскія работы В. Чэпелева і Л. Корхавай сапраўды дакладныя і выразныя. Прафесійная майстэрства спалучаецца з глыбокай чалавечай аддачай. Зразумелы кожны рух, кожная думка, даходлівыя паўзы. Бязлітасна і цэласна акрэслены чалавечыя лёсы.

Спектакль не пакідае спадзяванняў на хуткае перавыхаванне герояў. Яно хутчэй за ўсё немагчыма. Ад шчаслівага фіналу патыхнула б хлусней. Не хочацца шкадаваць бегуноў трушком. Напэўна, і не павінна быць спачування да іх.

Спектакль мае поспех у гледача і дазваляе спадзявацца на тое, што мастацтва сцэны здольна вярнуць страчаныя пазіцыі ў нашым духоўным жыцці.

**Таццяна АРЛОВА.**

---

**пра жанравую беднасць сённяшняй песні, пра неабходнасць павышаць яе мастацкі ўзровень гаварылі паэты П. Макаль і У. Някляеў.**

**Народныя вытокі сучаснай песні — праблема не толькі музыказнаўчая, яна мае дачыненне да практычных пытанняў развіцця беларускай эстрады, да дзейнасці канцэртных арганізацый, мастацкіх калектываў, асобных выканаўцаў. Пра выхаваўчыя і ўвесяляльныя функцыі эстрады, пра існуючыя аднабаковыя ўхілы ў фарміраванні рэпертуару некаторых калектываў, пра недахопы і цяжкасці ў рабоце разважаў мастацкі кіраўнік эстраднага бюро Беларускай дзяржаўнай філармоніі Я. Дзягілеў.**

**У абмеркаванні надзённых праблем беларускай эстраднай песні ўдзельнічалі мастацтвазнаўцы, кіраўнікі канцэртных арганізацый Мінска, Брэста, Гомеля, прадстаўнікі творчых саюзаў, прэсы, радыё і тэлебачання, выкладчыкі музычных навучальных устаноў, выканаўцы Аб'яднання музычных ансамбляў Упраўлення культуры Мінгарвыканкома. Вынікі канферэнцыі падсумаваў начальнік Упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. Рылатка. Прыняты адпаведныя рэкамендацыі па ўдасканаленні музычнай прапаганды, больш глыбокім вывучэнні праблем эстэтычнага выхавання насельніцтва, больш цесным супрацоўніцтве ўсіх зацікаўленых у гэтай справе арганізацый, устаноў і ведамстваў.**

**В. ЛУК'ЯНОВІЧ.**

---

**ВІНШУЕМ**

# Антону СЕМЯНОВІЧУ — 70

5 жніўня споўнілася 70 год крытыку і літаратуразнаўцу Антону Семяновічу. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Антон Аляксандравіч!**

**Горача віншуем Вас, вядомага крытыка і літаратуразнаўцу, з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння.**

**Свой працоўны шлях Вы пачалі слесарам на заводзе ў Мінску яшчэ ў 30-я гады. Прага да ведаў прывяла Вас у аўдыторыі Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. У час Вялікай Айчыннай вайны Вы — сувязны партызанскага атрада імя Д. Фурманава, што дзейнічаў на Міншчыне. У пасляваенныя гады настаўнічалі ў Івацэвічах, вучыліся ў аспірантуры, пасля працавалі навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З 1963 г. Вы — дацэнт кафедры рускай і зарубежнай літаратуры, а з 1971 г. загадваеце кафедрай беларускай літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горнага.**



**Вось ужо каля сарака год паспяхова выступаеце Вы ў друку як крытык і літаратуразнаўца. Шмат сіл і ўвагі аддалі вывучэнню гісторыі беларускай літаратуры і асабліва драматургіі. На Вашым творчым рахунку манаграфіі «Проза Якуба Коласа (дакастрычніцкі перыяд)», «Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд)», «Беларуская савецкая драматургія. 1917 — 1932», «Ад вытокаў да сталасці. Беларуская драматургія 1917 — 1945 гг.», кнігі, прысвечаныя творчасці Змітрака Бядулі, Кандрата Крапівы. Вы адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» і «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры», сааўтар падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры і дапаможнікаў для педінстытутаў. Вашы працы вызначаюцца навуковай грунтоўнасцю, пошукавым пафасам. Вы паспяхова абаранілі дысертацыю на званне доктара філалагічных навук.**

**Жадаем Вам, дарагі Антон Аляксандравіч, добрага здароўя, новых творчых поспехаў».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

---

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

Паважаны таварыш рэдактар!

Пісьмо ў рэдакцыю пішу ўпершыню ў жыцці. Шчыра кажучы, зварот «дарагая рэдакцыя» і наіўная вера ў тое, што староннія людзі разбяруцца за цябе ў тваіх справах ці бедах, звычайна выклікалі ў мяне ў лепшым выпадку ўсмешку, і ніколі не ўяўляла сабе, што буду вымушана звярнуцца ў друк.

Але здарылася бяда, для мяне глыбока асабістая. У той жа час я не маю права лічыць тое, пра што хачу расказаць, асабістай справай. Вось ужо амаль год збіралася напісаць, але не ведала, куды. У высокую інстанцыю? У «Літературную газету»? У «Советскую культуру»? Падумалася, што лепш за ўсё звярнуцца ў вашу газету. Бо справа датычыць нашай Беларусі, захавання яе багацця, багацця прыроды, культуры, душ нашых, нарэшце.

# Сняцца тыя мясціны...

Вы, канечне, ведаеце, як уразаецца ў памяць тое, што было ў дзяцінстве, як сняцца мясціны, у якіх мы некалі раслі.

Для мяне такой мясцінай быў гарадок Дрыса Віцебскай вобласці. Кожнае лета бабуля везла нас з сястрой з Мінска «на радзіму» — так яна гаварыла. Яшчэ не маючы паняцця пра тое, што такое раман «Вайна і мір», пра тое, хто такі Напалеон, мы бегалі глядзець пálі, што засталіся ад моста часоў вайны 1812 года ля зліцця Заходняй Дзвіны і Дрысы, дзе стаяў Дрыскі лагер, апісаны Львом Талстым. Слова «Дзвіна» заўсёды гучала як імя роднага чалавека. «Пойдзем на Дзвіну», «пойдзем на пляж» — як абяцанне вялікай радасці. Колькі дзяцей вырасла на дрысенскім пляжы! Такога чыстага, шаўкавістага пяску вы не знойдзеце ў Еўпаторыі. У лесапарку на беразе было так хораша, спакойна, што нас, маленькіх дзяўчынак, адпускалі туды гуляць адных.

Вы можаце ўявіць сабе парк, у якім суседнічаюць вялікая, клапатліва дагледжаная клумба з настуркамі, аксамітнамі, «японскімі парасонікамі» і — суніцы, чарніцы, брусніцы, маслякі і рыжыкі? Альбо ўтульную, чысценькую танцпляцоўку, на якой можна і ў бадмінтон пагуляць, і пачытаць або проста пасядзець. Найбольш прыемна было сядзець і глядзець. Ці ісці ўздоўж берага, куды вочы глядзяць. Не хочацца збядняць слоўнымі апісаннямі тое, што бачыцца цяпер унутраным поглядам, прыніжаць словамі пачуццё роднага.

Бетховен гаварыў, што можа палюбіць дрэва больш, чым чалавека.

Там былі такія вось любімыя дрэвы — старыя волаты ў маленькім скверы на цэнтральнай вуліцы, — такія вялікія і густыя, што пад імі было халаднавата ў спякоту і суха ў залеву.

Усе на свеце ліпы люблю за тое, што яны пахнуць, як тая, старая, ля скрыжавання. Здаецца, заўсёды буду адчуваць менавіта яе водар. Усё жыццё буду ўдзячна вялікаму дубу, які перагарадзіў дарогу самазвалу, што перакуліўся каля самага нашага дома. Так і хочацца пагладзіць рану на яго тоўстым ствале. Гэты дуб сустракаў і праводзіў нас — ён быў заўсёды бачны здалёк, як толькі ўязджалі ў гарадок.

Адзіным двухпавярховым будынкам некалі была старая школа. А самым прыгожым — аптэка. Аднапавярховы, абшаляваны цёмна-рудымі дошкамі дом са стройнымі, выцягнутымі вокнамі і карунковым жалезным казырком над уваходам. Бабуля расказвала, як у гэтым доме некалі цудоўна сыграў на скрыпцы малады і прыгожы Аркадзь Львовіч Бяссмертны, імя якога ўвайшло нават у падручнікі па гісторыі беларускай музыкі.

Колькі песень запісала ў гэтых мясцінах Лідзія Саулаўна Мухарынская ў канцы 40-х гадоў! Напэўна, усе навакольныя дарогі прайшла яна.

У краязнаўчым музеі новай школы мы аднойчы ўбачылі фотаздымкі братоў Машэравых — Пятра Міронавіча і Паўла Міронавіча, яны родам з гэтых мясцін. Побач аказаліся здымкі трох бабулiных братоў: старэйшы, Іосіф Іосіфавіч Грыгаровіч, служыў у народнай міліцыі і ў 1920 годзе быў забіты бандытамі; сярэдні, Іван Іосіфавіч — рабочы-дарожнік, стаў міністрам шасейных дарог Беларусі; малодшы, Уладзімір Іосіфавіч, генерал-лейтэнант, некалі яшчэ хлапчуком уцёк у Чырвоную Армію (пра яго напісана кніжка з даволі ходкай назвай «Чалавек з легенды»).

Але самы першы і страшны ўрок гісторыі быў самым непрыкметным.

За лесапаркам быў роў і насып. Вельмі хацелася пагуляць у мяккім пяску, паскакаць з насыпу. Бабуля не любіла, калі мы хадзілі туды. Не злавалася, а крыўдзілася і прасіла больш там не гуляць. Аднойчы мы спыталі: чаму? І бабуля расказала, што ў час Вялікай Айчыннай вайны на гэтым месцы быў расстрэл.

Усю вайну пражыла яна са старшымі ўнукамі на Віцебшчыне. Усю акупацыю.

Мінулым летам мы пабывалі ў Верхнядзвінску — наша любімая, славутая Дрыса даўно ўжо (здаецца, з 60-ых гадоў) называецца больш, як некаму падалося, мілагучна. Заехалі на некалькі гадзін наведаць магілы і зазірнуць у пусты старэнькі дом каля дуба.

Ехалі рэйсавым аўтобусам па «дарозе дзядзькі Яна», якая падалася маленькай, вузкай і да слёз роднай. Хацелася цалаваць шыльды з назвамі населеных пунктаў «Боркавічы», «Зелькі», «Прудзінкі», «Цясты»...

Пад'язджаючы да Верхнядзвінска, раптам убачылі цагляныя двух-трохпавярховыя дамы. Паспрабавалі суцешыць сябе тым, што «бабуля любіла ўсё новае, маладое і, напэўна, парадавалася б»... Не паспелі азірнуцца, як апынуліся ў цэнтры. Падумалі, што аўтобус ішоў нада хутка, шкада, не паздароўкаліся з дубам.

Каля базарнай плошчы ўбачылі абабіты, абдзёрты касцёл. Некалі ён быў цэлы, але мы, дзеці, адносіліся да яго як да чагосьці даволі звычайнага, не заўважаючы, які ён быў строга-прыгожы...

Вось зараз падыдзем да сквера... Але што гэта?! Частку сквера побач з брацкай магілай выкарчавалі, і вылезла раптам на ўсеагульны агляд будыніна былой гарадской турмы — не лепшае ўпрыгожанне і не лепшае супастаўленне.

Як добра, што хоць аптэка засталася! Вось ужо бачны здалёк карунковы казырок над уваходам... Толькі казырок і застаўся. Сцены цагляныя, вокны шырокія, прыземленыя, дом нейкі цельпукаваты.

Некалі мы ішлі па гэтай вуліцы вельмі доўга, бо ля кожнага дома сустракалі знаёмых. Цяпер пакуль нікога. Але вось, нарэшце, знаёмы твар. Жанчына расцалавалася з мамай і расплакалася: «Як страшна жыць! Вечарам выходзіш на вуліцу — адны чужыя людзі».

Тыя, хто ўсё памятаў, ахоўваў, зберагаў — на могілках. З могілак ідзём дадому.

Вось ён, наш дуб. Чаму ж мы яго не заўважылі? Побач, як бяльмо на воку, велізарная, жалезная, атрутна афарбаваная дурында (не ведаю, як яшчэ назваць) з нейкімі «духаўздымнымі» лозунгамі (здаецца, «Пэратворым наш горад...») па нечай «шчаслівай думцы» выконвае функцыю, так сказаць, сэнсавага цэнтра ландшафту. Гэта — «аздабленне» да 600-гадовага юбілею горада.

На месцы старой ліпы — шырокі, як стол, пень. Добра, што побач маладая вырасла, ад гэтага ж кораня.

Хутчэй, хутчэй на Дзвіну! Вось па дарозе яшчэ адна сустрэча. Ад таго, што паведаміла гэтая знаёмая, захацелася плакаць: будуць будаваць дамбу. Усе домікі на беразе знясуць. Парк, пляж знішчаць. Бераг забетаніруюць.

Каму ўсё гэта перашкодзіла? Чаму столькі стагоддзяў Дзвіна цякла і хораша жылося каля яе многім пакаленням людзей? Хто пасмеў вось так «выпраўляць», «скараць» прыроду? Мала яна помсціць за сябе...

У нашым сунічным, сасновым парку мы ўбачылі аўтамабілі, кіёскі, палаткі. На месцы клумбы — пустое месца. Падзёртыя павільёны, пункты пракату і іншая падобная цывілізацыя. Пошласць ваяўнічая.

Дабіла вось што. За паркам мы ўбачылі белыя цагляныя дамы. Так. На астанках тых самых расстраляных гітлераўцамі людзей.

Калі чалавек губляе памяць, услед за ёй адыходзіць і розум. Такога называюць вар'ятам, і не заўсёды яго можна ўратаваць. Тут жа страта памяці і розуму ў іншых маштабах... Як ратавацца?

Ужо сёмы год я не жыву ў Беларусі. Па-ранейшаму сніцца наша Дрыса. Але пасля леташняй паездкі стаў сніцца разбураны могільнік. Ці горы пілавіння на месцы парку. Ці заваленая глінай Дзвіна. А аднойчы прыснілася, што сяджу на гразкай зямлі каля дзвінскай вады, а зверху на мяне падаюць бетонныя пліты...

**Галіна СІЗКО, музыказнаўца.**

г. Клін, Маскоўская вобласць.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# Гістарычны цэнтр, якім яму быць?

**Сярод дасягненняў, якімі можа ганарыцца наша рэспубліка, — поспехі ў індустрыяльным домабудаўніцтве, арганізацыі прамысловых вузлоў, добраўпарадкаванні гарадоў. У той жа час з ростам грамадскай свядомасці ўсё больш сацыяльны рэзананс набываюць праблемы аховы і скарыстання гістарычна-культурнай спадчыны, захавання і аднаўлення гістарычнага аблічча нашых гарадоў, мястэчак, вёсак. З просьбай адказаць на некаторыя пытанні, звязаныя з гэтымі праблемамі, наш карэспандэнт звярнуўся да намесніка старшыні Дзяржбуда БССР Леанарда Віктаравіча МАСКАЛЕВІЧА.**

**— Як вы ацэньваеце сучасны стан нашай гістарычна-архітэктурнай спадчыны?**

— Нягледзячы на велізарныя разбурэнні ваенных часоў, на страты ў выніку прымітыўна-вульгарызатарскага стаўлення да гісторыі ў 30-я гады і ў пасляваенны перыяд, у гарадах, мястэчках і вёсках захавалася забудова, якая мае важнае гісторыка-архітэктурнае значэнне. Зберагліся некалькі тысяч помнікаў гісторыі і культуры, сярод якіх 1212 — помнікі архітэктуры і горадабудаўніцтва. Большасць з іх, на жаль, у нездавальняючым стане. Дастаткова сказаць, што адрэстаўравана пакуль толькі 50 помнікаў архітэктуры.

Па дадзеных Міністэрства культуры, для поўнай рэстаўрацыі ўсіх помнікаў патрабуецца прыкладна 500 мільёнаў рублёў. У 1987 годзе на гэту мэту выдаткавана 7 мільёнаў рублёў, а ў наступным прадугледжваецца выдзеліць 6 мільёнаў рублёў.

Разам з тым трэба мець на ўвазе, што статус «помнік архітэктуры» (саюзнага, рэспубліканскага ці мясцовага значэння) мае толькі малая частка ўсіх гістарычна-каштоўных аб'ектаў. У асноўным гэта так званая радавая, фонавая забудова, якая хоць юрыдычна і не ўключана ў разрад помнікаў, але фактычна ўтварае тое гістарычнае асяроддзе, на фоне якога толькі і могуць паўнацэнна існаваць помнікі архітэктуры. Невыпадкова ва ўсім свеце і ў нашай краіне вызначылася прагрэсіўная тэндэнцыя рэканструкцыі, рэгенерацыі (аднаўлення) не толькі асобных помнікаў, а і таго гістарычнага асяроддзя, у якім яны існавалі.

Адной з характэрных асаблівасцей нашага горадабудаўніцтва за апошнія гады з'яўляецца ўзрастанне ўвагі да праблемы рэгенерацыі і рэканструкцыі гістарычных цэнтраў гарадоў. Пры распрацоўцы генпланаў, праектаў дэталёвай планіроўкі цэнтраў архітэктары цяпер ашчадна ставяцца да гісторыка-культурнай спадчыны, яе захавання і выкарыстання.

**— Назавіце, калі ласка, канкрэтныя прыклады.**

— У Мінску ў 70-я гады прадугледжвалася рэканструяваць Цэнтральную (цяпер Кастрычніцкая) плошчу са зносам усёй гістарычнай забудовы Верхняга горада, за выключэннем помнікаў дойлідства. У тыя гады многія былі перакананы, што плошча павінна быць раскрыта ў бок водна-зялёнай поймы Свіслачы. Такая раскрытая кампазіцыя прысутнічала ва ўсіх конкурсных праектах рэканструкцыі плошчы.

Але «пераацэнка каштоўнасцей» у галіне архітэктуры, з'яўленне новага падыходу да гістарычнага асяроддзя прывялі да таго, што ў новым генеральным плане Мінска і праекце дэталёвай планіроўкі яго цэнтра прадугледжана гістарычнае асяроддзе Верхняга горада не толькі захаваць, але і рэгенераваць. У той жа час аказалася магчымым і функцыянальна апраўданым надаць кампазіцыі Кастрычніцкай плошчы больш замкнёны характар, забяспечыўшы пры гэтым арганічную ўзаемасувязь новай і старой забудовы.

**— Але, на жаль, не абышлося і без шматлікіх страт, такіх, напрыклад, як знос старой Нямігі...**

— У Мінску па шэрагу прычын пры ажыццяўленні рэканструкцыі горада аказалася неабходным у некаторых выпадках знесці старую забудову. Па Нямізе давялося пракласці транспартны дублёр Ленінскага праспекта. Іншага напрамку проста не было. Няцяжка пераканацца, як напружана «працуе» зараз гэты дублёр, асабліва з вынасам руху на праспект Дзяржынскага. У ходзе рэканструкцыі былі знесены некаторыя будынкі на вуліцах Астроўскага, Віцебскай, Камсамольскай. Але пры гэтым быў захаваны на Нямізе помнік архітэктуры XVIII стагоддзя Петрапаўлаўская царква...

**— Асабіста я падзяляю тую думку, якой, дарэчы, прытрымліваюцца і многія архітэктары, што «выпрамленне» Нямігі было не адзіна магчымым, а толькі самым простым вырашэннем транспартнай праблемы. Але ж гэта справы мінулых дзён, і пакінем іх на сумленні тагачасных праекціроўшчыкаў. Мабыць, не вельмі ўдалы і прыклад Петрапаўлаўскай царквы. Заціснутая паміж Домам мадэлей і новым жылым комплексам, яна не толькі страціла значэнне архітэктурнай дамінанты, але і апынулася ў бетонным «саркафагу». Тут узнікае яшчэ адно пытанне — характар выкарыстання адрэстаўраванай забудовы. І Петрапаўлаўская царква, і шэраг будынкаў Верхняга горада выкарыстоўваюцца пад гаспадарчыя патрэбы, у той жа час у горада дэфіцыт культурных «пляцовак».**

— Гэту праблему мы спрабуем вырашыць у Траецкім прадмесці. Аўтары праекта—Л. Левін, Ю. Грыгор'еў, Ю. Градаў, І. Дзятлаў, Б. Карташэвіч (Мінскпраект), С. Багласаў, Т. Жаровіна, В. Бакаеў (Рэстаўрацыйныя майстэрні), А. Беразоўскі, Я. Верычаў, В. Хромаў, А. Венк (Белжылпраект). У адпаведнасці з праектам прадугледжана размяшчэнне ў аднаўленых будынках прадпрыемстваў народных промыслаў з салонамі-магазінамі, майстэрнямі па рамонце старадаўніх вырабаў, сувенірнымі крамамі. Ёсць тут і карчма, і шынок, і кнігарня. Установы культуры прадстаўлены выставачнай залай, музеем Максіма Багдановіча.

Складзены таксама праект рэгенерацыі Верхняга горада. Аўтары праекта — Л. Левін, Ю. Градаў, І. Дзятлаў, В. Паўлаў, С. Тылевіч (Мінскпраект). Гістарычная забудова выходзіць на паўночна-заходні бок Кастрычніцкай плошчы, утвараючы разам з плошчай Свабоды адзіны функцыянальна-планіровачны комплекс у сістэме агульнагарадскога цэнтра. У праекце рэгенерацыі пастаўлена задача ўзнавіць цэласную культурна-гістарычную зону, выкарыстоўваючы як помнікі архітэктуры, так і радавую гістарычную забудову.

У Верхнім горадзе аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя» ўжо адноўлены помнікі архітэктуры XVII—XIX стагоддзяў: касцёл мужчынскага манастыра, дом мастака Ваньковіча. На чарзе — кафедральны езуіцкі касцёл, гандлёвыя рады і іншыя будынкі.

Праводзіцца работа па рэканструкцыі ў раёне вуліцы Астроўскага невялікай часткі былога Ракаўскага прадмесця, ізаляванага шматпавярховай забудовай. Намячаюцца мерапрыемствы па захаванні ў зоне цэнтра раскопак старажытнага замчышча.

**— У чытачоў можа ўзнікнуць пытанне, чаму над праектам Траецкага прадмесця працавалі два праектныя інстытуты і Рэстаўрацыйныя майстэрні, а Верхні горад — аб'ект больш складаны і ў горадабудаўнічым сэнсе больш важны — «робіць» адзін Мінскпраект. Сёй-той выказвае меркаванні, што па прычыне зацікаўленасці Мінскпраекта менавіта ў новабудоўлях ён не плануе рэгенерацыі будынкаў Святадухаўскай царквы, ратушы, вежы з гадзіннікам.**

— Я не магу згадзіцца з такім меркаваннем. Справа не ў прафесійных амбіцыях, мы проста не маем сродкаў. Да двухтысячнага года плануецца забяспечыць кожную сям'ю асобнай кватэрай. Гэта праграма вымагае вялікіх капіталаўкладанняў.

**— Але ж яшчэ ў 1982 годзе Дзяржбуд БССР разам з Міністэрствам культуры, Мінжылкамунгасам БССР, таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры зацвердзілі праграму рэгенерацыі гістарычнай забудовы.**

— Праграма сапраўды зацверджана, але дагэтуль не вырашаны канчаткова пытанні фінансавання. Праграма можа застацца голай дэкларацыяй, пакуль яе «не падтрымаюць» Дзяржплан і Мінфін: адзін — выдзеленымі лімітамі, другі — фінансавымі сродкамі. Дарэчы, у нашай сістэме няма нават такога артыкула выдаткаў, як «рэгенерацыя», ёсць «будаўніцтва», «капітальны рамонт»...

**— Сродкі знайшліся б з добраахвотных ахвяраванняў грамадзян.**

— На гэту справу патрэбны не проста грошы, а матэрыяльныя рэсурсы. Падкрэслю, што рэалізацыя праектаў рэгенерацыі залежыць не толькі ад выдаткаваных сродкаў на рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры, але і ад актыўнай зацікаўленасці, ініцыятывы мясцовых савецкіх і партыйных органаў, грамадскасці. З улікам таго, што гістарычныя будынкі могуць быць выкарыстаны для розных мэт, уладам на месцах прадастаўляецца магчымасць прыцягнуць для іх рэстаўрацыі сродкі забудоўшчыкаў розных ведамстваў. Менавіта так робіцца ў Прыбалтыцы, Закаўказзі.

**— У якім стане зараз праграма рэгенерацыі гістарычнай забудовы?**

— Праграма ахоплівае 35 гарадоў рэспублікі. Гэта Брэст, Кобрын, Пінск, Камянец, Пружаны, Ружаны ў Брэсцкай вобласці, Віцебск, Полацк, Глыбокае, Лепель, Паставы — у Віцебскай, Гомель, Мазыр, Чэрыкаў — у Гомельскай, Гродна, Ліда, Мір, Слонім, Навагрудак, Ваўкавыск, Гальшаны, Дзятлава, Іўе, Любча, Шчучын — у Гродзенскай, Мінск, Нясвіж, Заслаўе, Клецк, Лагойск — у Мінскай, Магілёў, Бабруйск, Быхаў, Слаўгарад, Шклоў — у Магілёўскай.

Па Брэсце, Віцебску, Пінску, Полацку, Гродне, Магілёве, Слуцку, Нясвіжы і Мсціславе праекты рэгенерацыі ўжо распрацаваны. Па Мінску, як адзначалася, выкананы праект і ажыццяўляецца ў натуры рэгенерацыя Верхняга горада. Па Брэсце і Віцебску распрацаваны і зацверджаны мерапрыемствы па рэалізацыі праектаў рэгенерацыі.

Неабходна падкрэсліць, што ў падобных маштабах праектныя работы па рэгенерацыі гістарычных цэнтраў не ажыццяўляюцца ні ў адной з рэспублік краіны. У распрацоўцы праектаў удзельнічаў вядучы інстытут у галіне горадабудаўніцтва ў рэспубліцы — БелНДІПгорадабудаўніцтва, які стаў галоўнай праектнай арганізацыяй у гэтай галіне. На субпадрадных пачатках у распрацоўцы праектаў удзельнічалі аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» і Белжылпраект.

**— На жаль, сёння ў галіне захавання і выкарыстання старой забудовы шмат недахопаў.**

— У шэрагу выпадкаў трэба гаварыць і пра сур'ёзныя горадабудаўнічыя памылкі. Так, напрыклад, у Полацку 9-павярховы жылы дом, размешчаны на плошчы Леніна, парушыў гістарычнае асяроддзе, перакрыў візуальную сувязь гэтага асяроддзя з галоўнай магістраллю горада. У Гродне ў гістарычным цэнтры з малапавярховай забудовай узведзены высотны будынак аблвыканкома, які парушыў існуючыя маштабы. Несуразмерным гістарычнай забудове аказаўся і новы будынак універмага, узведзены па вуліцы Савецкай.

У 1980 годзе па матэрыялах абследаванняў, праведзеных БелНДІПгорадабудаўніцтва, Дзяржбуду БССР удалося прадухіліць буйнейшую горадабудаўнічую памылку ў забудове цэнтра Пінска. Тут у гістарычным асяроддзі цэнтра збіраліся размясціць комплекс 9-павярховых жылых дамоў, для якога ўжо была выканана тэхнічная дакументацыя. Работы спынілі. Адначасова было прынята рашэнне скарэкціраваць раней распрацаваны праект дэталёвай планіроўкі цэнтра горада, праект рэгенерацыі гістарычнага ядра.

У асобных выпадках у выніку суб'ектыўных валявых рашэнняў некаторых кіраўнікоў на месцах дапускаліся парушэнні заканадаўства аб ахове помнікаў. Гэтым дзеянням дадзена прынцыповая ацэнка ЦК КП Беларусі, урадам рэспублікі. Прынятай Саветам Міністраў БССР пастановай аб фактах парушэнняў заканадаўства па ахове помнікаў гісторыі вінаватыя былі строга пакараны, звернута ўвага на неабходнасць карэнным чынам перабудаваць работу па захаванні, аднаўленні і выкарыстанні ў сучасных умовах помнікаў гісторыі і культуры.

Распрацаваны і зацверджаны Саветам Міністраў БССР правілы забудовы гарадоў, у якіх ёсць спецыяльны раздзел аб патрабаваннях па ахове помнікаў гісторыі і культуры. Ва ўсіх генеральных планах і праектах дэталёвай планіроўкі ў абавязковым парадку ўказваецца размяшчэнне помнікаў гісторыі і культуры і межы зон іх аховы. Праектна-планіровачная дакументацыя для гістарычных гарадоў у абавязковым парадку ўзгадняецца з Міністэрствам культуры ў залежнасці ад значнасці помнікаў, што знаходзяцца на іх тэрыторыі. Для будаўніцтва ў гарадах, якія маюць гістарычную забудову, распрацавана спецыяльная серыя тыпавых праектаў жылых дамоў.

**— Што вы можаце сказаць аб вопыце іншых рэспублік краіны?**

— Аб'ём работ аб'яднання «Белрэстаўрацыя» ў 1987 годзе складзе 4 мільёны рублёў, у 1988 годзе прадугледжваецца 6 мільёнаў рублёў. Гэтых сродкаў яўна недастаткова. Аб'яднанне адчувае сур'ёзныя цяжкасці з матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі, кадрамі спецыялістаў, абмежавана віды работ, якія гэтымі спецыялістамі могуць выконвацца. Для параўнання заўважу, што ў суседняй Літве справы абстаяць значна лепш. Тэхнічная ўзброенасць трэста «Літрэстаўрацыя» ў пяць разоў вышэйшая за нашу, а яго спецыялісты выконваюць звыш ста відаў работ.

Работы па рэгенерацыі гістарычнай забудовы ў Літве забяспечваюцца неабходнымі па аб'ёме і асартыменце матэрыяламі на аснове папярэдне распрацаваных і зацверджаных ва ўстаноўленым парадку чарцяжоў. Пры паспяховым выкананні рамонтна-рэстаўрацыйных работ выдаткоўваюцца дадатковыя ліміты. Трэсту «Літрэстаўрацыя» прадастаўляецца жыллё для адсялення жыхароў на час правядзення капітальнага рамонту. У работах па рэгенерацыі гістарычных цэнтраў у Літве ўдзельнічаюць прадпрыемствы, само насельніцтва.

**— І апошняе пытанне. Як развіваецца матэрыяльная база рэстаўрацыі ў нас?**

— У цяперашні час у нас завяршаецца будаўніцтва вытворчай базы Мінскіх рэстаўрацыйных майстэрняў у Калядзічах. У Гродне і Віцебску падобныя базы павінны быць пабудаваны ў 1988 годзе, у Магілёве — у 1989 годзе. Аднак увод гэтых магутнасцей яшчэ не вырашыць праблемы.

У выніку недастатковай дасведчанасці апошнім часам стала модным усе недахопы ў работах па захаванні і выкарыстанні помнікаў гісторыі прыпісваць архітэктурна-будаўнічым органам. Думаецца, што ўважлівы і цвярозы аналіз становішча спраў паказвае: праблема можа быць вырашана толькі аб'яднаннем нашых агульных намаганняў. На гэта павінна быць накіравана ўвага мясцовых Саветаў, міністэрстваў, ведамстваў. Па прыкладзе нашых суседзяў-літоўцаў мэтазгодна актыўней прыцягнуць да рэгенерацыі жылой забудовы ў гарадах будаўнічыя падраздзяленні Мінжылкамунгаса.

Дзяржбуд БССР мае намер у бліжэйшы час арганізаваць рэспубліканскую выстаўку выкананых праектаў рэгенерацыі цэнтраў гарадоў. Такая выстаўка дазволіць не толькі шырока раскрыць карціну работ, якія вядуцца, але і засяродзіць увагу на нявырашаных пытаннях.

Беларусь, якая дасягнула вялікіх поспехаў у развіцці эканомікі і культуры, мае ўсе магчымасці, каб і ў галіне рэгенерацыі гістарычнай забудовы заняць дастойнае месца сярод іншых рэспублік.

**— Дзякуй, Леанард Віктаравіч, за гутарку.**

**Гутарку вёў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## «ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКі ВЫНіК?

# ПРЫХОДЗІШ У МУЗЕЙ...

Праблемам музейнай экспазіцыі, гісторыка-папулярызатарскай працы музеяў неаднойчы адводзілася месца на старонках газеты. Прыгадаем артыкул М. Новікавай «Служба памяці» («ЛіМ» 15.VIII.86), дзе крытычна ацэньваліся некаторыя раздзелы экспазіцыі Дзяржаўнага музея БССР. Гісторыя вучыць нас толькі тады, слушна заўважае аўтар, калі мы ўлоўліваем яе логіку. А якая можа быць логіка гісторыі, калі пра цэлыя эпохі расказ ідзе скорагаворкай, калі больш-менш дакладна асвятляюцца толькі перыяды эканамічнага развіцця, а культурны працэс прадстаўлены з вялікімі прабеламі, калі з прычыны застарэлай «князебоязі» замоўчваюцца імёны выдатных гістарычных асоб... Такія справы ў Мінску, у галоўным музеі рэспублікі, які павінен быць узорам для іншых. А якія яны на перыферыі? Аб гэтым — рэдакцыйная пошта, прысвечаная Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею.

Першы ліст прыйшоў у рэдакцыю яшчэ летам 1985 года. Яго аўтар супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР археолаг Г. Сагановіч пісаў пра тое, што экспазіцыя раздзела «Гродзеншчына ў XIII — XVIII стст.» даўно маральна састарэла. У ёй адсутнічаюць нават ўпамінанні пра многіх выдатных асоб і важныя гістарычныя падзеі. Ніяк, напрыклад, не адлюстраваны ўдзел Беларусі і, у прыватнасці, Гродзеншчыны ў барацьбе з мангола-татарамі і крыжакамі. Але найбольшае абурэнне Г. Сагановіча выклікала тое, што, на яго думку, музей прапагандуе па сутнасці антынавуковыя гістарычныя канцэпцыі.

«Хочацца верыць, — заключае свой ліст Г. Сагановіч, — што праз нейкі час у экспазіцыі феадальнага перыяду Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, гэтай буйной культурна-выхаваўчай установы, усё стане на сваё месца і кожны, хто сюды прыйдзе, зможа адкрыць для сябе праўдзівыя старонкі мінулага нашага народа».

Ліст быў дасланы на рэагаванне ў Міністэрства культуры БССР. Афіцыйны адказ быў надрукаваны ў «ЛіМе» («Экспазіцыя будзе абноўлена», 17.I.86). У ім, у прыватнасці, адзначалася, што ў экспазіцыі сапраўды ёсць недахопы, што яна маральна і фізічна састарэла. «Аўтар справядліва ўказвае на недакладнасці ў анатацыях і несуразмернасць агульнарасійскага і мясцовага матэрыялу.

...Дырэкцыі музея ўказана ліквідаваць недакладнасці, унесці магчымыя дапаўненні ў экспазіцыю, у рабоце над удасканаленнем экспазіцыі апаратыўна ўлічваць прапановы і заўвагі».

Прайшоў час. Але ўдасканаленне экспазіцыі абмяжавалася заменай некаторых пажаўцелых этыкетак. Пра гэта сведчыць ліст у рэдакцыю ад 6 сакавіка 1986 года, падпісаны ўжо групай гродзенцаў. Яны зноў гаварылі з трывогай пра раздзел, раскрытыкаваны Г. Сагановічам. «Першае, што кідаецца ў вочы, — чытаем ліст, — гэта экспазіцыя, прысвечаная перыяду Вялікага княства Літоўскага. Вось адпаведная этыкетка: «Вялікі літоўскі князь Вітаўт» (ёсць стылістычная і сэнсавая розніца «літоўскі князь» і «князь Літоўскі»), «Рамяство літоўскага перыяду», «Архітэктура літоўскага перыяду» і г. д. Нідзе не тлумачыцца, што палітычную, тэрытарыяльную, ваенную аснову Вялікага княства Літоўскага складалі беларускія землі, што дзяржаўнай моваю княства, асновай культурнага будаўніцтва была беларуская мова. Нідзе не ўпамянута, што гістарычнай Літвой называліся ўсе заходне-беларускія землі амаль да самага Мінска».

Словам, справа з месца не зрушана. І як пацвярджэнне гэтага той факт, што на пачатку года мы зноў атрымалі ліст ад знаёмага ўжо нам Г. Сагановіча. Сэнс яго: абяцанага абнаўлення экспазіцыі не адбылося. Пра тое ж і ліст у рэдакцыю рабочага з Гродна І. Бляяўскага. «У нашым горадзе ў апошні час па-новаму стаў працаваць Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі, — піша чытач. — У музеі навукова распрацаваная і па-майстэрску афармленая экспазіцыя. У залах праводзяцца канцэрты старадаўняй музыкі, арганізуюцца гісторыка-мастацкія выстаўкі. А побач з музеем атэізму, літаральна ў двух кроках, — гісторыка-археалагічны музей, пра існаванне якога ў Гродне многія забыліся. Ён больш падобны на выстаўку сельскагаспадарчых дасягненняў. Якой была экспазіцыя 15 гадоў назад, калі мы яшчэ школьнікамі прыязджалі з весак на экскурсію, такой і засталася дагэтуль.

Столькі цікавых адкрыццяў зроблена ў галіне гісторыі і археалогіі Гродзеншчыны і ўвогуле Беларусі, пераглядаюцца застарэлыя канцэпцыі, у краіне ва ўсіх галінах культуры ідзе перабудова, а ў музеі ўсё па-старому. Можа, маё пытанне не па адрасу, але я хачу запытаць — няўжо так будзе заўсёды?»

Мы гэтае пытанне пераадрасоўваем Упраўленню музеяў і аховы помнікаў Міністэрства культуры БССР, Гродзенскаму абласному ўпраўленню культуры, музейнай адміністрацыі.

**Аддзел культуры і выяўленчага мастацтва «ЛіМа».**

---

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

Барыс Саганька

# У краіне польдэраў і цюльпанаў

I.

...РАЗБУДЗІЛІ мяне, няйнакш, птушкі — надта ж галасіста і радасна віталі яны прыход новага дня. І першая мая думка была, нават не думка — хутчэй адчуванне, што я не дома, не ў сябе на дачы пад Мінскам, не ў мацi ў роднай вёсцы на Палессі, не ля начлежнага вогнішча ў грыбах ці на рыбалцы, а... Дзе я?

Спахапліва расплюшчыў вочы. І адразу ж усё, як кажуць, стала на сваё месца — так, я далёка ад Беларусі, у незнаёмым месцы, у незнаёмых людзей, у незнаёмай краіне. Я — у Нідэрландах ці, як яшчэ іх называюць, Галандыі...

Першая сустрэча з краінай, можна лічыць, ужо адбылася — учора ўвечары, калі мы, група актывістаў Савецкага камітэта абароны міру, прыляцелі на самалёце Аэрафлота ў гэтую краіну, і, праравўшыся праз густую заслону хмар, селі на аэрадроме ў Амстэрдаме і там, у аэрапорце, нас сустрэлі актывісты Міжцаркоўнага савета міру (IKV), па запрашэнні якога мы і тут, у Нідэрландах. Сустрэча была кароткая, усяго некалькі хвілін. Да таго ж, размовы вяліся па-англійску, а я, на жаль, не ведаю англійскай мовы. Выручыў трохі сёе-тое перакладаўшы мне, Сіман, галандзец, які некалі вучыўся ў адным з інстытутаў у Маскве. З яго перакладу я зразумеў, — жыць наша дэлегацыя будзе не разам, не ў гасцініцы, а на прыватных кватэрах, па адным у розных гарадах і вёсках. Вядома, першая думка была — лепей бы я не ехаў сюды, у гэтую краіну, сядзеў бы дома, у Мінску, і не рабіў бы клопату ні сабе, ні людзям. Аднак было позна штосьці папраўляць ці зрабіць інакш. У спісе, які нам зачыталі, значылася, што я павінен буду жыць у Ван Росема. Хто такі Ван Росем? З выгляду — вельмі прыемны, элегантна апрануты чалавек, яшчэ не стары, з белазубай усмешкай. Ён, Ван Росем, пазнаёміў мяне і са сваёю жонкаю, Ры, таксама ўсмешлівай і, як падалося мне, дабрадушнай — яны абодва былі ў аэрапорце, сустракалі нашу дэлегацыю, у складзе якой былі вядомы ўкраінскі паэт, галоўны рэдактар часопіса «Огонёк» В. Кароціч, палітычны аглядальнік «Литературной газеты» Ф. Бурлацкі, сакратар Савецкага камітэта абароны міру Р. Локшын, загадчыца аддзела Інстытута эканомікі АН СССР М. Максімава, намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР З. Малевіч і іншыя, усяго 12 чалавек. Выявілася, Росемы ведаюць нямецкую мову, і я аж уздыхнуў — не зусім, але трохі разумею і я гэтую мову, ва ўсякім выпадку, вывучаў яе і ў школе, і ва універсітэце. Нямецкая мова, праўда, як неўзабаве я пераканаўся, у вымаўленні галандцаў не зусім такая, якую я чуў ад сваіх настаўнікаў у школе і ва універсітэце. Ды і ў маім вымаўленні яна была не такая, як, мабыць, чулі яе, калі вывучалі, Ван Росем і яго жонка Ры. Тым не менш, мы пачалі гаварыць на гэтай мове, як хто ўмеў, і, як я хутчэй здагадаўся, чым зразумеў, што час позні — першая гадзіна ночы! — і таму нам не варта затрымлівацца ў аэрапорце, а трэба ехаць. «Куды?» — задаў я пытанне. «Туды, дзе мы жывём», — адказаў Ван Росем. «Гэта далёка?» — пытаў я. «Не, кіламетраў дваццаць-дваццаць пяць». — «На чым мы паедзем?» — «На машыне». — «На таксі?» — «Не, у мяне свая машына». Да яе мы і накіраваліся, папярэдне, вядома, развітаўшыся з тымі, з кім я і прыляцеў у Нідэрланды. Рэчаў у мяне няшмат, не люблю я ў дарозе цягацца з імі, і таму, куды б ні ехаў, бяру з сабою самае неабходнае — мінімум. Іх мы закінулі ў Ван Росемаў «Фольксваген» у багажнік, і, усеўшыся на сядзенні, паехалі. Як я заўважыў, пачаў сеяцца дождж, дарога была мокрая і бліскучая. З акна відаць было толькі тое, што выхоплівалі з цемры фары — павароты, віядукі, розныя дарожныя знакі. Мо праз паўгадзіны язды мы спыніліся ля цаглянага чатырохпавярховага дома. «Што, прыехалі?» — спытаў я. «Так», — адказаў нешматслоўны Ван Росем.

Узяўшы з багажніка свой чамадан і партфель, я ўслед за Ван Росемам і яго жонкай пачаў узбірацца па лесвіцы на другі паверх, дзе і быў уваход у кватэру — не малую, як неўзабаве высветлілася, на шэсць пакояў. Акрамя Ван Росема і яго жонкі, у ёй больш ніхто не жыў. Ван Росем сказаў, што раней у яго была вялікая сям'я — два сыны і дзве дачкі. Дзеці выраслі, пажаніліся, павыходзілі замуж і разляцеліся хто куды — пакінулі бацькоўскі кут, жывуць самастойна. Ван Росем паказаў мне, дзе кухня, дзе ўмывальнік, душ, дзе ўсе іншыя бытавыя выгоды. Кватэра ў два паверхі, і адзін з пакояў, што быў на першым паверсе, Росемы выдзелілі мне, маўляў, размяшчайцеся, будзьце, як дома. Пакой быў застаўлены кнігамі, з шырокім ложкам, сталом і нават умывальнікам. Памыўшыся і пераапрануўшыся, я распакаваў свае рэчы, і, па даўняму беларускаму звычаю, панёс гаспадару і гаспадыні гасцінцы — хлеб, сала, розныя сувеніры. Гаспадар і гаспадыня вельмі ж узрадаваліся ўсяму, што я ім падарыў — я быў першы савецкі чалавек, які пераступіў парог іхняга дома і ўсяго таго, што прывёз, яны ніколі не бачылі. Пачаставалі мяне чаем. Гаспадыня Ры спытала, што я люблю есці. Я прызнаўся: ем усё, што пададуць. Ры мой адказ не вельмі задаволіў — яна сказала, што ў Нідэрландах зусім, мабыць, не такая яда, як у Савецкім Саюзе, і ці падыдзе яна мне. «Гэта нават цікава пажыць так, як жывуць галандцы, — сказаў я. — Я ж тут упершыню...» «Добра», — згадзілася, не стала пярэчыць Ры.

Яшчэ пасядзелі хвілін колькі і пайшлі «шляфен» — спаць. Засну я надзіва хутка, ледзь толькі лёг у пасцель і выключыў святло...

...Птушкі ўсё гэтак жа галасіста і радасна крычалі, свісталі, спявалі, і я, падняўшыся з пасцелі, адшмаргнуў штору, што зацягвала акно. Яно было адчынена, чаму мяне, мабыць, і разбудзіў птушыны зграй. Было яшчэ зусім рана, стаяла мокрая, туманная раніца, і на даволі прасторным, парослым кветкамі і роўна, быццам пад машынку, пастрыжанай травой двары, шпарка бегалі, мусіць, шукаючы спажывы, жалобна-чорныя, з адлівам шпакі, мітуслівыя, як і ўсюды, шчабетуны-вераб'і. Каркала, усеўшыся на сук разложыстага клёна, што рос пасярод двара, варона. Больш класціся ў пасцель мне не хацелася, і я з цікавасцю пачаў разглядаць кнігі, што стаялі на незашклёных стэлажах у пакоі. Кнігі былі, вядома, на галандскай мове, аднак і яны сказалі мне сёе-тое пра гаспадара і яго сям'ю. Папершае, многія з іх былі зачытаныя — значыцца, у хаце кнігі трымалі не дзеля прыгажосці, прэстыжу. Па-другое, сярод кніг, побач з дэтэктывамі — раманамі Агаты Крысці, Жоржа Сіменона, Яна Флемінга — побач з бестселерамі, якія выдаваліся ў спецыяльным афармленні, відаць, серы, — стаялі творы класікаў і папулярных і ў нашай краіне нямецкіх, англійскіх, французскіх, амерыканскіх пісьменнікаў. Былі тут творы і Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, І. Тургенева, А. Чэхава... Асабліва многа было так званай даведачнай літаратуры. Невялікія, кампактныя, багата ілюстраваныя, а, галоўнае, надта ж патрэбныя ў самых розных выпадках выданні. Я нават пазайздросціў, што ў нас такіх кніг мала, ды і выдаюцца яны безгустоўна, абы-як — у мяккіх вокладках, нязручнага фармату, на шэрай паперы, без каляровых ілюстрацый. Раз такую кнігу пачытаеш — і выкідай — не кніга, а ануча...

**Памыўшыся, пагаліўшыся, я сеў за стол, каб пазнаёміцца з тымі дакументамі, што ўручылі мне ў самалёце і ў аэрапорце. Дакументаў было няшмат. У адным з іх расказвалася, што гэта за такая арганізацыя — Міжцаркоўны савет міру (IKV). Калі верыць дакументу — гэта самая буйная, вядучая арганізацыя ў антываенным руху Нідэрландаў, ён карыстаецца падтрымкай дзевяці асноўных цэркваў, мае каля 400 нізавых пярвічных фарміраванняў. Цяпер у Міжцаркоўным савеце міру праходзіць перабудова яго дзейнасці. Вылучаны ў 1977 годзе лозунг «Ліквідаваць ядзерную зброю ў свеце, пачынаючы з Нідэрландаў», пад якім праходзілі магутныя дэманстрацыі ў Амстэрдаме і Гаазе, заменены лозунгам «Разрадка непадзельна», які прадугледжвае барацьбу за палітычную разрадку ў адносінах між Усходам і Захадам з адначасовым працягам барацьбы за раззбраенне. Пад гэтым лозунгам прайшло галоўнае мерапрыемства Міжцаркоўнага савета міру з 20 па 28 верасня 1986 г. — Тыдзень міру. Міжцаркоўны савет міру накіраваў урадам многіх краін Зварот з заклікам спыніць ядзерныя выпрабаванні і забараніць хімічную зброю. Курс жа на падтрыманне кантактаў з сацыялістычнымі краінамі як па афіцыйнай лініі, так і «знізу» (у тым ліку і з так званымі «незалежнымі» дысідэнцкімі і царкоўнымі групамі) застаецца.**

**(Працяг на стар. 14—15).**

# У КРАІНЕ ПОЛЬДЭРАЎ І ЦЮЛЬПАНАЎ

(Працяг.
Пачатак на стар. 13).

**Раней арганізацыяй кіраваў Я. ван Пютэн. Пасля яго адстаўкі з паста старшыні (ён застаўся ў праўленні) арганізацыяй практычна кіруе генеральны сакратар М. -Я. Фабер. Ідуць пошукі кандыдатуры новага старшыні, у праўленні ёсць думка абмежаваць ролю сакратарыята Міжцаркоўнага савета міру і самога М. -Я. Фабера. Л. Хогбрынк, член выканаўчага савета арганізацыі, які ўзначальвае міжнародны камітэт, прыхільнік таго, каб Міжцаркоўны савет міру засяродзіў сваю дзейнасць на барацьбе за раззбраенне і не асабліва раскідваўся на кантакты з рознага роду «дысідэнтамі».**

**У другім дакуменце паведамлялася прыкладная праграма нашага знаходжання ў Нідэрландах. Адна група, у асноўным кіраўніцтва, будзе сустракацца з прадстаўнікамі розных палітычных партый і арганізацый, Камітэтам за еўрапейскую бяспеку і супрацоўніцтва, сродкамі масавай інфармацыі, другая частка дэлегацыі—з актывістамі Міжцаркоўнага савета міру на месцах. Потым, праз трое сутак, уся дэлегацыя збярэцца ў горадзе Дрэйбергене і там правядзе семінар на тэму «Хельсінскі працэс». Будуць сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці, журналістамі, кіраўніцтвам Міжцаркоўнага савета міру. Будуць, вядома, і розныя азнаямляльныя паездкі, экскурсіі па краіне... Перад адлётам у Маскву адбудзецца прэс-канферэнцыя...**

**«Што ж, праграма як праграма,—падумалася мне.—Дай бог, як кажуць, яе выканаць. Адзінае, чаго б хацелася,—мець вольны час, паездзіць па краіне, паглядзець не толькі на прыроду, але і як жывуць, працуюць тут людзі».**

У дзверы пастукалі, папярэдзілі, што пара снедаць. Гэта зрабіў Ван Росем. Ён і напомніў, — на дзевяць гадзін у нас запланавана сустрэча ў Хейсэлта...

Калі я падняўся на другі паверх, Ван Росем і яго жонка Ры ўжо сядзелі ў сталовай за сталом. На стале, засланым белым абрусам, ляжаў хлеб — не такі, як у нас, а шэры, быццам з вотрубей, і белы, накшталт нашай сайкі. Хлеб быў у фабрычнай упакоўцы, парэзаны на тонкія лусты. Ляжала ў абгортцы вельмі тонка парэзаная ветчына, ляжаў і цэлы брус сыру, стаялі масла і ў падстаўках яйкі. Былі на стале і кофе, чай.

Перад тым, як брацца за яду, Ван Росем і Ры памаліліся богу. Потым спыталі ў мяне, ці я таксама веруючы, ці хаджу ў царкву. Давялося прызнацца, што я атэіст.

— І камуніст? — спытаў Ван Росем.

— І камуніст, — адказаў я.

Ван Росем і Ры пераглянуліся, больш пытанняў не задавалі.

Як, з чаго пачынаць снеданне, я не ведаў, а таму чакаў, што і ў якім парадку будуць есці гаспадар і гаспадыня. Аказалася, што снедаюць тут так. Кладуць сабе ў талерку дзве-тры лусты хлеба, мажуць яго маслам, накрываюць сырам ці ветчынаю і, наразаючы нажом, відэльцам закідваюць сабе ў рот. Калі перасядае, запіваюць вадою, што заўсёды стаіць на стале ў шклянцы, ці чаем, кофе. Ядуць, вядома, і яйка. Нічога іншага — варанага, печанага, смажанага на снеданне не падаюць. Дарэчы, як потым я даведаўся, гэтак жа бутэрбродамі і абедаюць. Суп жа—рэдкі, перацёрты — ядуць толькі адзін раз у суткі, без хлеба, дзесьці гадзін у сем вечара. Другія ж блюды — катлеты, біфштэксы, шашлыкі ці нешта іншае з мясам і гарнірам гатуецца хіба толькі ў святы. Што ж, што край, то свой звычай. Ван Росем і Ры адрэзалі па лустачцы пакаштаваць і таго хлеба, што я прывёз з Мінска — нашага раўбіцкага. Хлеб ім спадабаўся. Ван Росем нават пашкадаваў, што такога няма, не выпякаюць у іх.

— Трэба наладжваць цяснейшыя кантакты між нашымі дзяржавамі, гандляваць, — сказаў я. — Тады тое, што ў нас, можна будзе купіць і ў вас, а тое, што ёсць у вас, купіць у нас.

— Я, я, — згадзіўся адразу ж Ван Росем. — Яволь.

Я спытаў, ці мае ён, Ван Росем, час паехаць са мною да таго Хейсэлта, пра якога ён гаварыў.

Так, час ён мае.

— А на працу вам сёння хіба не трэба?

Выявілася, Ван Росем — пенсіянер: на пенсію пайшоў зусім нядаўна, усяго які год. Мог бы, вядома, яшчэ працаваць, але ў краіне вялікая армія беспрацоўных. І каб хоць трохі ўладкаваць некаторых, усіх, хто мае на тое права, выпраўляюць на пенсію. Прыклад падала сама каралева Юліяна — яна пайшла таксама на пенсію, а кіраўніцтва каралеўствам перадала дачцэ Беатрысе.

— І якая ў вас пенсія? — спытаў я ў Ван Росема.

— Пенсія ў мяне добрая. Я атрымліваю нават іх дзве — ад дзяржавы, і ад таго прадпрыемства, на якім я аж трыццаць два гады працаваў.

— Прабачце, а кім вы працавалі?

— Бухгалтарам-эканамістам. Між іншым, — паглядзеў на мяне з нейкай асаблівай увагай Ван Росем, — у нас пасля сустрэчы ў Хейсэлта будзе вольны час і я магу паказаць вам гэтае прадпрыемства.

— Буду ўдзячны, — адказаў я. — Гэта далёка? І што гэта за прадпрыемства?

— Не, гэта недалёка — паўгадзіны язды. А прадпрыемства — фабрыка, што выпускае мэблю для кантор, а таксама ложкі, крэслы, сталы. Але не з дрэва, а з жалеза. Прадпрыемства гандлюе амаль з усімі краінамі Еўропы і Амерыкі. У нас і заўтра будзе трохі вольнага часу, з самай раніцы, то вы скажыце, што яшчэ хацелі б, будучы ў нас у гасцях, паглядзець?

Пытанне было нечаканае. Але прыемнае. Намячалася ж індывідуальная праграма. А гэта... Заўсёды цікава. Ліхаманкава я пачаў перабіраць у памяці, што б мне паглядзець. Па-першае, музеі. Іх у Нідэрландах шмат. У Амстэрдаме — Нацыянальны музей, музей-кватэра Рэмбранта, музей Ван Гога. Пад самым Амстэрдамам у невялікім гарадку Зандаме — музей Пятра Першага — тут Пётр Першы знаёміўся з галандскім суднабудаваннем; захаваўся драўляны домік (ён цяпер абкладзены цэглай), дзе рускі цар спыняўся, жыў. Не менш цікавыя музеі — Муніцыпальны, касцюма, прэсы, пошты — у Гаазе. У Ратэрдаме — музей этналогіі, гістарычны, марскі; у Лейдэне — Нацыянальны музей этнаграфіі, Нацыянальны музей геалогіі і мінералогіі... Ёсць, вядома, і універсітэты, бібліятэкі, помнікі ды і шмат чаго іншага, на што хацелася б хоць кінуць вокам.

**Але агляд гарадоў, музеяў і помнікаў я адклаў на пасля. Цяпер жа... Куды накіравацца, паехаць, што папрасіць паглядзець?.. Ды і... У якой меры я магу карыстацца гасціннасцю маіх гаспадароў? Яны мяне бясплатна кормяць, даюць жыллё; на паездкі, ды яшчэ далёкія, трэба ж і час, і машына, бензін...**

**Даўно, калі быў яшчэ я студэнтам і чытаў «Нашу Ніву», захапіла мяне галандская сістэма вядзення сельскай гаспадаркі, якую так актыўна прапагандавала газета. Гэтая сістэма быццам вельмі ж адпавядала нашым сельскагаспадарчым і прыродным умовам, ды і быццам натуры самога беларуса.**

**— Я хацеў бы паглядзець хоць адну з вашых вёсак,—сказаў я ўрэшце.**

**— О, гэта можна, — заўсміхалася Ры.**

**І паведаміла— у яе жыве ў вёсцы цётка, і Ры даўно не была ў гасцях. У Ван Росема таксама жылі сваякі ў сельскай мясцовасці—займаліся садаводствам. У сваякоў Ры дом быў стары, яшчэ даваенны, пабудаваны ў 1929 годзе, у сваякоў Ван Росема—новы, сучасны.**

**— Што менавіта хочацца вам у вёсцы паглядзець?—спытаў Ван Росем.**

**— Ды ўсё, што пакажаце... Палі, сады, фермы!.. Ну, вядома, і як жывуць людзі.**

**— Гут!**

Сустрэча ў Хейсэлта... Па-першае, хто такі гэты Хейсэлт?.. Па-другое, хто ў яго будзе — адзін ён, ці яшчэ хто-небудзь?.. Ды і... Ад таго, як яна пройдзе, будуць у нечым залежаць і наступныя сустрэчы, бо яна — п е р ш а я... А што гэта такое — ведае кожны, хто бываў за мяжою, выходзіў на публіку, выступаў...

Ван Росем прывёз мяне ў сваім «Фольксвагене» на вуліцу, якая ўся патанала ў абсадах баярышніку, што якраз цвіў — квола-ружовая квецень, здаецца, аж пенілася на дрэвах, праз яе не было відаць нават лісця. На дзвярах двухпавярховага дома, ля якога мы спыніліся, вісеў плакат — некалькі чалавек, дружна падналёгшы, скідвалі ў сімвалічную прорву атамную бомбу. Як толькі мы вылезлі з машыны, нам насустрач выйшаў даволі малады энергічны чалавек, з чорнаю, як дзягцярны квач, барадою. Заўсміхаўся, падаючы руку, каб павітацца. Я зразумеў, што гэта і ёсць той самы Хейсэлт, пра якога гаварыў мне Ван Росем.

— Гутэн таг!

— Гутэн таг!

Хейсэлт, шырока адчыніўшы дзверы, запрасіў нас заходзіць у дом. Спярша я, потым і Ван Росем, зайшлі — гэта, як я і здагадваўся, была кватэра. Калідор быў застаўлены стэлажамі. На некаторых з іх на палічках стаялі прабіркі, колбы, нейкія іншыя пасудзіны з невядомымі мне марскімі раслінамі і малюскамі, але большасць паліц былі застаўлены кнігамі.

Сустрэла нас вельмі ж ветлівай усмешкай зусім маладая дзяўчына — стройная, апрануты, як і большасць галандак, быццам неахайна, але з густам.

— Вы гаспадыня дома? — пакланіўся я.

— Не, я выпускніца славянскага аддзялення Амстэрдамскага універсітэта, — сказала яна даволі чыста па-руску. — Завуць мяне Каця, Кацярына Лейвэр, я праваслаўная, буду дапамагаць вам на сустрэчы. Справа ў тым, што цяпер у нашых школах абавязкова вывучаюцца тры мовы — галандская, англійская і нямецкая. Раней такога не было, таму старыя людзі не ўсе ведаюць нямецкую і англійскую мовы. А сёння на гэтай сустрэчы будуць людзі ў асноўным старыя. Маладыя ўдзень на працы.

**Некалькі чалавек — мужчыны і жанчыны — ужо сядзелі ў самым вялікім пакоі, які, дарэчы, таксама быў увесь ад падлогі да столі застаўлены кнігамі. Зайшоўшы туды, я павітаўся з кожным за руку, сеў сам, дзе мне паказалі, — на крэсла за столік. Села побач са мною і Каця. Адразу ж пачалася і гутарка — непрымушаная, спакойная, тым больш, што гаспадар падаў каму чай, каму кофе. Пытанні былі самыя розныя — як мне спалася на новым месцы, чаму я прыехаў без жонкі і ці ёсць наогул яна ў мяне, ці камуніст я. Калі сказаў, што камуніст, некалькі чалавек адразу ж заварушыліся — значыцца, за мяжу ў чужую краіну з нашай не камуністаў не выпускаюць. Давялося супакоіць недаверкаў — у той дэлегацыі, якая да іх прыляцела, было некалькі чалавек беспартыйных. «Чаму ў вас людзей, якія вераць у бога, садзяць у турмы?» Гэта спытаў сухарлявы, але даволі бадзёры дзядок. «Няпраўда, — адказаў я. — У нас царква аддзелена ад дзяржавы, і ўсе, хто хоча хадзіць у царкву ці касцёл, — ходзяць. За гэта ніхто нікога не карае. Справа іншая, калі веруючы парушае законы. Тады яго судзяць і калі будзе даказана яго віна — вядома, караюць, могуць пасадзіць і ў турму. Але перад законам у нашай краіне ўсе роўныя — камуністы і беспартыйныя, веруючыя і неверуючыя, хто б на якой пасадзе ні быў, якое б месца ў грамадстве ні займаў. Парушыў закон — адказвай...» «А вы знарок жонку сюды не ўзялі ці яе не пусцілі?» — дамагалася пажылая жанчына. «Мяне запрасілі без жонкі. А каб з жонкаю, я з жонкаю і прыехаў бы. Калі ласка, запрасіце, мы прыедзем». — «А ў вас праўда, што мужчыны і жанчыны карыстаюцца роўнымі правамі?». «Праўда». — «У вас прынята пастанова аб барацьбе з п'янствам. Гэта толькі пастанова, ці практычна штонебудзь робіцца?» Давялося расказаць, што ў нас скарочана вытворчасць алкагольных напіткаў, менш іх паступае і на продаж, створана таварыства цвярозасці, пазнаёміў, якія дзейнічаюць меры пакарання тых, хто злоўжывае выпіўкай. «Чаму ў вас ненавідзяць дысідэнтаў?» — «Цікава, ці любілі б вы тых, хто аплёўвае не толькі лад, які вам падабаецца, але і радзіму, зямлю, па сутнасці, робіцца здраднікам? Да таго ж, як правіла, нідзе не працуе, жыве на падачках, што перападаюць з розных замежных пасольстваў і агенцтваў друку, сродкаў масавай інфармацыі...» «Перабудова, галоснасць, дэмакратызацыя... Што гэта такое? Словы, ці што-небудзь робіцца, каб гэта ўкараніць у жыццё? Расказаў, як праходзіць гэты працэс у нашай краіне, якія даў ужо вынікі. «А ці ёсць супраціўленне гэтаму працэсу?» — «Вядома, ёсць. Асабліва з боку тых, хто злоўжываў службовым становішчам, браў хабар, з боку бюракратаў, перастрахоўшчыкаў, людзей, што не прывыклі думаць, а дзейнічалі па ўказцы зверху. Ды і не ўсе яшчэ да канца паверылі, што гэта незваротны працэс, сёй-той баіцца, што ён будзе спынены...».**

Гутарка — і гэта адчувалася—падабалася, прыходзілі новыя і новыя людзі. Пытанні паўтараліся, іх задавалі тыя, хто не чуў, што такія ці падобныя пытанні ўжо былі. А, можа, сёй-той хацеў супаставіць мае адказы, параўнаць з ранейшымі — ці так, ці тое самае я буду гаварыць. Вядома, найбольш, што людзей цікавіла, ці будзе новая вайна, што мы, савецкія людзі, барацьбіты за мір, робім, каб не было вайны. Якраз перад самым нашым прыездам у Нідэрланды ў Берліне адбылася нарада Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору, якая прыняла вельмі важны дакумент «Аб ваеннай дактрыне дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору». Тыя, хто прыйшоў на сустрэчу, былі знаёмы з гэтым дакументам. Яны яго ўхвалялі, нават цытавалі, асабліва месцы, дзе гаварылася, што дзяржавы—удзельніцы Варшаўскага дагавору ніколі, ні пры якіх абставінах не пачнуць ваенныя дзеянні супраць якой бы там ні было дзяржавы ці саюзу дзяржаў, калі самі не стануць аб'ектам узброенага нападу; яны ніколі не прыменяць першымі ядзерчай зброі; яны не маюць тэрытарыяльных прэтэнзій ні да якой дзяржавы ў Еўропе, ні па-за Еўропай; яны не адносяцца ні да адной дзяржавы, ні да аднаго народа як да свайго ворага...

Падабалася ўдзельнікам сустрэчы, што пазіцыя нашай краіны і ўсіх сацыялістычных дзяржаў цвёрдая і нязменная адносна таго, каб як мага хутчэй забараніць атамныя выпрабаванні, што было б першачарговай мерай у справе распрацоўкі, вытворчасці і ўдасканалення ядзернай зброі, яе паэтапнага скарачэння і поўнай ліквідацыі, недапушчэння яе размяшчэння ў касмічнай прасторы... Але, зноў жа, у некаторых людзей былі і сумненні — гэта толькі словы ці за імі будуць якія-небудзь рэальныя справы? Я нагадаў пра савецкі мараторый на забарону выпрабаванняў атамнай зброі, які наша краіна прадаўжвала некалькі разоў і да якога так і не далучыліся Злучаныя Штаты Амерыкі, ды і іншыя дзяржавы, што маюць атамную зброю. Давайце, казаў я, думаць разам і рабіць, што ў нашых сілах. На першым часе добра было б, каб галандскія абаронцы міру прымусілі хоць бы свой урад заняць больш прыгодную для свайго народа пазіцыю, не ісці ў фарватары палітыкі краін НАТА, не падтрымліваць так званых абаронных ініцыятыў ЗША, змяніць тую пазіцыю ў размяшчэнні атамных ракет, якую ён займае цяпер, бо яна адна з самых рэакцыйных і небяспечных. Амерыканцы баяцца трымаць сваю атамную зброю ў сябе, бо ў выпадку чаго яны самі могуць загінуць першыя ад свае ж зброі. Таму і шукаюць склады для яе ў Еўропе...».

Тыя, хто прыйшоў на сустрэчу, згаджаліся са мною, расказвалі, што яны робяць — праводзяць дэманстрацыі, шлюць розныя петыцыі, уцягваюць у свой рух новых і новых людзей. «І мы дамажамся свайго! — гаварылі яны з цвёрдаю перакананасцю ў сваёй перамозе. — Не можа быць, каб цвярозы чалавечы розум не ўзяў верх над вар'ятствам». Гутарка пераходзіла ў яшчэ больш спакойную плынь, яе ўдзельнікі адчувалі еднасць думак і задач, асабліва ў забароне і знішчэнні атамнай зброі. Сёй-той паглядваў на гадзіннік — сустрэча зацягвалася, аднак нікому не хацелася разыходзіцца... «Што яшчэ вас цікавіць?» — пытаў я. «Цікавіць многае, але вы, відаць, ужо стаміліся, — сказаў мой гаспадар Ван Росем. — Сёння ў мяне дома ў сем гадзін вечара адбудзецца яшчэ адна сустрэча. І я запрашаю ўсіх на гэтую сустрэчу. Там можна будзе пачуць адказы на іншыя пытанні. Цяпер жа дазвольце нашу сустрэчу на гэтым закончыць». Я падзякаваў усім за шчырыя пытанні, за ўвагу, мне таксама пачалі, падыходзячы, паціскаць руку, дзякаваць...

Гаспадар кватэры, Хейсэлт, усё гэтак жа міла ўсміхаючыся, правёў нас да машыны, развітаўся. Ван Росем запрасіў паехаць з намі і Кацю, бо яна прызналася, што ніколі не была ні на адным прадпрыемстве, хоць праз які месяц і збіралася пайсці працаваць у газету, дзе, вядома ж, давядзецца пісаць і пра рабочы клас, завод, якіх яна зусім не ведала.

— У нас няма таго, што ў вас, — сказала Каця. — У нас не накіроўваюць пасля заканчэння вучобы выпускнікоў на працу, трэба самому ўладкоўвацца.

— Адкуль вы ведаеце, як у нас? — спытаў я. — Вы хіба былі ў Савецкім Саюзе?

— Жыла паўгода ў Маскве, стажыравалася ў педінстытуце імя Пушкіна.

Каця на сустрэчу прыехала на машыне. Праўда, не на сваёй — сваёй у яе не было, а на машыне сябра, з якім яна, як прызналася, жыла і з якім збіралася заўтра ўранні паехаць на тыдзень-другі ў Іспанію.

— У нас многія так жывуць, як я. Пакуль выходзіць замуж — трэба прывыкнуць да чалавека, з якім збіраешся ладзіць сям'ю.

— І як шлюбы пасля гэтага? — спытаў я.

— Усё адно прыкладна палова разводаў, — крыва ўсміхнулася Каця.

Было вырашана — мы пад'едзем да дому, дзе жыве Ван Росем, Каця пакіне там машыну, перасядзе да нас і ўжо адтуль паедзем на прадпрыемства, дзе да выхаду на пенсію працаваў Ван Росем.

Так і зрабілі. Праз якое паўгадзіны Каця сядзела ўжо ў машыне, якую вёў Ван Росем, і мы з ёю гаварылі пра ўсё, што нас цікавіла. Пачалі гаворку з таго, на чым яе і перапынілі.

—Ці спадабалася вам у нас у Маскве?

— Спадабалася. Хоць напачатку было і нязвыкла. Чэргі ў магазінах, чэргі на аўтобусных і тралейбусных прыпынках, чэргі ў сталовых... Але ў вас вельмі шчырыя людзі, заўсёды памогуць. У нас тут не такія.

— Я пакуль гэтага не адчуў, — прызнаўся я.

— То лічыце, вам пашанцавала. Наша гасціннасць — не ваша. У нас усяму ёсць мяжа. Вось я вучылася, памагалі мне бацька і маці — яны разведзеныя, маці жыве ў Гаазе, бацька ў Вене, у Аўстрыі. Я скончыла універсітэт — і ўсё, усякая дапамога мне спыняецца, больш ні бацька, ні маці не прышле ні гульдана. Я павінна сама сабе зарабляць на хлеб і жыць паводле свайго заробку. А гэта нялёгка, бо ў мяне яшчэ і працы няма. Ёсць быццам толькі дамоўленасць — мяне абяцаюць узяць на выпрабаваўчы тэрмін у адну з правінцыйных газет. Ці змагу я там прыжыцца — не ведаю.

Калісьці я сам закончыў аддзяленне журналістыкі, хоць і не багата, але працаваў у раённай газеце. Таму пачаў даваць сякія-такія парады, што і як трэба рабіць, каб замацавацца ў штаце рэдакцыі, стаць патрэбным, а то і незаменным супрацоўнікам, займець аўтарытэт, расці як аўтар.

— У нас усё куды складаней, — уздыхнула Каця. — І чаму аднаго пакідаюць на працы, а другога скарачаюць — разабрацца нялёгка. Вось мы былі ў гасцях у Хейсэлта. Ён — вучоны, біёлаг. Прычым, сапраўдны вучоны. Але ён — беспрацоўны, яго скарацілі.

— І за што ён жыве?

— Па-першае, у яго працуе жонка, а ў нас, калі адзін чалавек мае працу, то ўжо з голаду сям'я не памрэ. Па-другое, яму плаціць пакуль што восемдзесят працэнтаў былой яго зарплаты тая арганізацыя, дзе ён працаваў. Але справа нават не ў грашах — гэта даволі непрыемнае, цяжкое адчуванне, калі ты не працуеш. Адчуванне адрынутасці, непатрэбнасці прыгнятае. Ты малады, хочаш нешта добрае зрабіць, ёсць сіла, жаданне, энергія, веды, а ты... лішні. Ды і падзець не ведаеш сябе дзе. Я вось некалькі тыдняў, як закончыла вучобу, і то гэта ўжо адчула. А ўявіць сябе на месцы тых, хто без працы і год, і два, і тры... Страшна! Дзяржава быццам дае дапамогу — тысяча чатырыста гульданаў, гэта рыса беднасці... Але... Хіба ж усё вымяраецца грашыма? Ды і ў нас так — яшчэ калі ты малады, цябе могуць кудысьці ўзяць. А пасля сарака... І не думай нават... Сорак год — і ты ўжо не работнік, ты нікому не трэба. Ці будзь там, дзе раней працаваў, цярпі ўсё, што над табой і хто творыць, ці... На вуліцу. І навечна ўжо, да самай смерці...

Усё ж жорсткія законы капіталізму. Мы гаворым пра іх, але на сабе не адчуваем. І калі сутыкаемся... Мароз па скуры дзярэ.

— А як у вас зарабляюць тыя, хто працуе?— пацікавіўся я.

— Па-рознаму. Як налічаюць, дык быццам многа. Але вялікія вылікі — трыццаць тры працэнты. Ды прыкладна дваццаць пяць працэнтаў плата за кватэру...

— А медыцына, навучанне — бясплатныя?

— Не, медыцына ў нас платная. Візіт да ўрача —дваццаць пяць гульданаў, выклік дадому — яшчэ даражэй. Праўда, існуюць розныя страхоўкі. Але тады... Вылічэнні з зарплаты яшчэ большыя. Што ж да вучобы... То тут па-рознаму, нават некаторым студэнтам плацяць стыпендыю. Гэта залежыць ад даходаў, якія атрымліваюць бацькі. Наогул жа, жыццёвы ўзровень у нас высокі, нам зайздросцяць жыхары многіх краін. У нас няма тых кантрастаў, як, скажам, у Злучаных Штатах Амерыкі, дзе побач з неверагоднаю раскошаю існуе жахлівая беднасць. Але і ў нас не ўсё вырашана, не так ідэальна, як некаторым здаецца, асабліва тым, хто бывае наездамі, турыстам.

Тым часам мы выехалі з горада — чыстага, нават на ўскраінах, зялёнага, з шырокімі, роўнымі вуліцамі, тратуарамі, светафорамі, вельмі сучаснымі дамамі, што ішлі, быццам бясконца, квартал за кварталам. І я з цікавасцю пачаў разглядаць ужо не так абжытую, можна сказаць, вясковую Галандыю — цагляныя, накрытыя чарапіцаю, непадобныя адзін на адзін двухпавярховікі, што акуратна стаялі ўбаку ад дарогі, абсаджаныя кустамі бэзу, баярышніку, іншаю зелянінаю; каналы, якімі парэзана было поле; дрэвы, што раслі паўзбоч; кароў, авечак, коней — яны вольна, без пастухоў папасваліся ў сваю ахвотку на лугах.

— Гэта і ёсць вашы вядомыя на ўвесь свет польдэры? —спытаў я ў Каці.

— Так. Тут, дзе мы едзем, калісьці было балота, азёры. Яны асушаны, землі падняты. Вякамі ідзе ў нас гэтае змаганне чалавека з прыродай...

— Скажыце, калі ласка, а што ўяўляе з сябе галандская мова?

— Ёсць анекдот ці то жарт, як сышліся ў адным шынку тры маракі — немец, француз і англічанін. Выпілі, а пагаварыць па душах не могуць. Вось каб паразумецца, яны і выдумалі такую мову, дзе адно слова нямецкае, другое англійскае, а трэцяе французскае. Вядома, гэта жарт, але доля праўды ў ім ёсць. Да таго ж, мова наша мае шмат дыялектаў.

— Я чуў, чытаў, што ў вас жывуць фламандцы і фрызы...

— Так, але фламандцы пасіўныя да сваёй мовы. А вось фрызы не паддаюцца асіміляцыі. Хоць іх у Нідэрландах жыве менш чым паўмільёна, аднак яны дамагліся, што іх дзеці ў школах вучацца на роднай мове. Адкрыты і фрызскія аддзяленні ў вышэйшых навучальных установах, ва універсітэтах, дзе прадметы выкладаюцца на іх роднай мове. Выдаюцца газеты, часопісы... Фрызы надта ж шануюць свае звычаі, культуру. Яны маюць некалькі цікавых пісьменнікаў. Вядома, усе яны добра ведаюць і галандскую мову, але каб гаварыць на ёй... Не, карыстаюцца толькі пры пільнай патрэбе. А так дома, у сям'і ды і адзін з адным гавораць толькі па-свойму.

— І як вы, галандцы, адносіцеся да фрызаў?

— Як хто, — паціснула плячыма Каця. — Адны з павагай, іншыя з пагардай. Наогул, у нас, як і ў вас, жыве шмат людзей самых розных нацыянальнасцей — туркі, яўрэі, сурынамцы, кітайцы, інданезійцы, немцы, англічане, іспанцы... Да таго ж, шмат прыязджае турыстаў. І, скажам, веданне не адной, а некалькіх моў — проста жыццёвая неабходнасць. Што ж да фрызаў... Яны жывуць у Фрыстляндыі і на некаторых астравах. Толькі нямногія з іх мяняюць месца свайго жыхарства. Большасць жа, закончыўшы вучобу, вяртаюцца да сябе на радзіму, у бацькоўскі край, які яны любяць, як, мабыць, ніхто.

**(Працяг будзе).**

## ПЕРАКЛАДЫ

**Для чытача, выхаванага на еўрапейскай паэтычнай традыцыі, кітайскія вершы жанру «ШЫ», створаныя паэтамі Танскага часу (VII—X стст.), здаюцца занадта простымі. І ўсё ж для разумення «прастаты» гэтай паэтычнай класікі Кітая абавязкова патрэбны далікатнасць успрымання і сумоўе, душэўная чуласць, раскрытасць перад светам. Паэты старажытнага Кітая пісалі пра зямныя рэчы, зямныя пачуцці. Але ўсё зямное ахінута таямніцамі, а звычайнае выяўлена з такой пяшчотнай уважлівасцю і такім глыбокім асэнсаваннем, што міжволі трапляеш у сферы высокай духоўнасці.**

**Пераклады выкананы Ігарам Бабковым, філосафам па адукацыі. Кітайскую мову вывучаў пры дапамозе У-Сюэ-Шана—перакладчыка на кітайскую мову твораў Чынгіза Айтматава. Філолаг У-Сюэ-Шан у час стажыроўкі пры БДУ імя У. І. Леніна вёў гурток кітайскай мовы для студэнтаў.**

### ЛІ БАЙ (ЛІ БО)

#### УНІЗ ДА ЦІАН ЛІН[1]

**Раніцой развітаўся з Бай Дзі**
**у час каляровых хмар,**
**Тысяча лі да Ціан Лін**
**за адзін дзень праплыў.**
**На абодвух берагах**
**крыкі малпаў,**
**нібы плач аб памерлым.**
**Лёгкая лодка ўжо праплыла**
**дзесяць тысяч горных хрыбтоў.**

#### ЦІХАЙ НОЧЧУ ЗГАДАЛАСЯ

**Перад ложкам — месяцавых**
**промняў святло.**
**Ці, можа, пакрыў падлогу**
**іней?**
**Прасветленым тварам**
**на ясны месяц гляджу**
**І голаў схіляю,**
**сумуючы па радзіме.**

#### ГЛЯДЖУ НА ВАДАСПАД ЛУ ШАН

**Сонца асвяціла Ціан Лу[2]**
**нарадзіўшы срэбраны дым**

**Здалёку бачу — вісіць**
**вадаспад**
**побач бялее плёс**
**Паток ляціць безразважна ўніз**
**пацерак шмат у ім**
**Ці можа Срэбная Рака[1]**
**сышла з дзевяці нябёс?!**

[1]Ціан Лін, Бай Дзі — гарады па цячэнні Хуан Хэ.

[2]Ціан Лу — назва гары.

[1]Срэбраная Рака — так па-кітайску гучыць Млечны Шлях.

### ДУ ФУ

#### БЛУКАЮЧЫ ЎНАЧЫ, ЗАПІСАЎ ДУМКІ

**Гнуткая трава, лёгкі ветрык,**
**бераг**

**Высокая мачта, адзінота,**
**лодка ў начы**

**Зорка схілілася да роўнага**
**шырокага поля**

**Месяц калышацца**
**ў вялікім патоку**

**Імя? Ці, пішучы словы,**
**яго набудзеш?**

**Павінен пасаду пакінуць**
**на схіле гадоў**

**Туды-сюды кідаюся, да каго**
**я падобны?**

**Нібыта чайка**
**паміж зямлёю і небам...**

### ЦІН ЧАН СЮ

#### ВЯСНОВАЯ СКАРГА

**Ах, салавей, салавей!**
**Прагнаць бы цябе.**
**Не ў час заспяваў,**
**перарваў сон,**
**Так і не дайшла**
**да роднага Ляо Ці...**

### ЛУО ПІН ВАН

#### ПЕСНЯ ГУСЯ

**Гусь, гусь, гусь!**
**Выгнуў шыю, цягнучыся**
**да нябёсаў, пяе.**
**Белы пух плыве па зялёнай**
**вадзе.**
**Чырвоныя лапы парушаюць**
**чыстую гладзь.**

### ГАО ШЫ

#### РАЗВІТАННЕ З ТАН ТА[1]

**На тысячу лі жоўтыя хмары,**
**белы дзень пацямнеў.**
**Вецер з захаду... дзікія гусі...**
**снег ідзе і ідзе.**
**Ты не сумуй, што ў дальняй**
**дарозе**
**не будзе побач сяброў;**
**У Паднябеснай якія людзі**
**не пазнаюць твой спеў?!**

### МЭН ХАО ЖАН

#### ВЯСЕННІ РАНАК

**Не адчуваю ранак у вясенні сон**
**Птушкі запелі,**
**усюды звіняць галасы**
**А ноччу — вецер і дождж.**
**Што ж рабіць мне, калі**
**Кветкі апалі, не зведаўшы**
**чыстай расы?!**

### ХЭ ЧЖЫ ЧЖАН

#### ВЯРНУЎШЫСЯ НА РАДЗІМУ, ВЫПАДКОВА ЗАПІСАЎ

**Маленькім пакінуў бацькаў дом**
**старым вярнуўся сюды**
**Родныя гукі ўсё тыя ж вакол**
**скроні ў сівізне**
**З хлопчыкам бачым адзін**
**аднаго**
**смяемся не пазнаём**

**Адкуль жа госць прыехаў**
**да нас?—**
**хлопчык пытаецца ў мяне...**

[1]Тан Та — вядомы музыкант Танскага часу.

Пераклад з кітайскай мовы Ігара БАБКОВА.

## РЭПЛІКА

# «СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ НАШАЙ ГАЗЕТЫ...»

Даследзіны па гісторыі айчыннай літаратуры найчасцей змяшчаюцца ў спецыяльных выданнях. Не дзіва, што гэтыя матэрыялы становяцца вядомымі толькі абмежаванай частцы чытачоў, якія самі займаюцца гэтымі праблемамі. Для таго, каб большасць беларусаў былі абазнанымі ў роднай літаратуры, падручніка, вядома, бракуе. Таму нормай павінна стаць друкаванне такіх артыкулаў на старонках не толькі рэспубліканскіх газет, але і абласных, раённых.

Нядаўна, гартаючы падшыўку газеты «Будаўнік камунізму» Любанскага раёна, напаткаў артыкул «Лірнік вясковы» за 23 жніўня 1986 года. Артыкул на цэлую газетную старонку зацікавіў, бо такое ў раёнках сустракаецца даволі рэдка. Прысвечаны ён асобе вядомага беларуска-польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі. Прозвішча аўтара Мікола Мікуліч. Аднак, прачытаўшы артыкул, я дужа здзівіўся. Гэты матэрыял можна падпісваць так: «Вынятк з кнігі К. А. Цвіркі «Слова пра Сыракомлю».

М. Мікуліч у сваім артыкуле бессаромна спісвае цэлыя абзацы з кнігі К. Цвіркі. Мо ёсць спасылкі на крыніцу? Не, няма. І не магло іх быць, бо аўтар артыкула пайшоў занадта ўжо простым шляхам.

Вось, напрыклад, чытаем у Мікуліча: «Паходзіў (У. Сыракомля. — **М. Т.**) з дробнай беларускай шляхты. Бацька, Аляксандр Кандратовіч, быў з вельмі «тыповага», нічым не адметнага шляхецкага роду, прадстаўнікі якога здаўна з'яўляліся, па сведчанню самога паэта, «слугамі і прыяцелямі дому нясвіжскіх Радзівілаў...» Маці, Вікторыя Златкоўская, была са Слуцкага павета, з сям'і, якой з вялікай цяжкасцю даводзілася даказваць сваё шляхецкае паходжанне».

Чытаем у кнізе К. Цвіркі: «Паходзіў Уладзіслаў Сыракомля з дробнай беларускай шляхты. Маці, Вікторыя Златкоўская, была са Слуцкага павета, з сям'і, якой з вялікай цяжкасцю прыходзілася даказваць сваё шляхецкае паходжанне. Бацька, Аляксандр Кандратовіч, гербу Сыракомля, зноўтакі быў з вельмі «тыповага», нічым не адметнага шляхецкага роду, прадстаўнікі якога здаўна з'яўляліся, па сведчанню самога паэта, «слугамі і прыяцелямі дому нясвіжскіх Радзівілаў...»

Як бачым, М. Мікуліч памяняў толькі месцамі звесткі пра паходжанне бацькі і маці. Менавіта так робяць гультаяватыя вучні ў школе, перастаўляючы сказы, што спісваюць з падручніка.

Аднак і тыя вучні, відаць, працуюць больш ахайна. Бо далей Мікуліч так захапіўся, што нават слоў не мяняе. Так, амаль цалкам перапісана старонка 35-ая кнігі К. Цвіркі. Мікуліч толькі змяніў адзін выраз: замест «беларускіх прыгонных сялян» пакінуў «прыгонных сялян».

Аўтар артыкула працягвае «грунтоўна» перапісваць і далей. У наступным абзацы ён, праўда, чамусь піша, што Сыракомля пачаў далучацца да навукі ў Смольгаве, а К. Цвірка адзначыў, што ўжо ў Яськавічах, дзе Кандратовічы жылі раней. Але, відаць, для Мікуліча гэта неістотна. Дзеля прыліку замест «памалу», «прылучацца» ён піша «спакваля», «далучацца». Ды яшчэ сёе-тое падкарочвае. Прапусціўшы толькі адзін абзац са старонкі 43 кнігі К. Цвіркі, Мікуліч паўтарае 42, 43, 44 старонкі.

Можна яшчэ шмат цытаваць. Але вельмі ж ужо няўдзячная гэта справа. І як нам разумець паводзіны аўтара?

У прадмове да артыкула «Лірнік вясковы» гаворыцца, што М. Мікуліч—кандыдат філалагічных навук і што артыкул напісаны ім спецыяльна для раённай газеты.

Відаць, М. Мікуліч спадзяваўся, што гэтую газету чытаюць мала, а навуковыя кнігі — яшчэ менш.

Падвёў навуковец сваіх землякоў. І сябе таксама.

**Міхась ТАЛОЧКА,**
**студэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

**Саюз тэатральных дзеячаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці памочніка рэжысёра ДАБТа, заслужанага артыста рэспублікі ЕЎРАЕВА Рувіма Якаўлевіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## ВЫСТАЎКІ

Доўгія жыццёвыя вёрсты пройдзены Надзеяй Галоўчанка. Нямала зроблена за гэты час. Выстаўка, якая прысвечана 80-годдзю мастачкі і адкрыта ў Палацы мастацтваў, увабрала ў сябе толькі самыя лепшыя творы, але і іх набралася не адзін дзесятак. Партрэты, пейзажы, нацюрморты...

Н. Галоўчанка ў асноўным працуе ў тэхніцы акварэлі. «Герой Сацыялістычнай Працы Булахаў», «Брыгадзір-паркетчык А. Каросцік», «Урач Калітоўскі» — гэтыя і іншыя работы выкананы яшчэ ў пяцідзесятыя гады і па іх відаць, як удасканальвалася майстэрства Н. Галоўчанкі, выпускніцы Маскоўскага дзяржаўнага мастацкага інстытута імя Сурыкава, як пашырала яна свой творчы дыяпазон, імкнучыся праўдзіва адлюстроўваць сваіх сучаснікаў, паказваючы іх шматграннае жыццё.

Даўно піша Н. Галоўчанка і партрэты беларускіх пісьменнікаў, а таксама ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Лірычныя пейзажы напоўнены нейкім светлым роздумам, пяшчотнай паэтычнасцю.

Шмат на выстаўцы малюнкаў, выкананых алоўкам і вугалем, ёсць работы ў галіне гравюры і літаграфіі.

Творы Н. Галоўчанкі ўспрымаеш, як асобныя старонкі нашага паўсядзённага жыцця, багатага на падзеі, змястоўнага і непаўторнага. Многія з іх, якія пісаліся шмат гадоў назад, сталі ўжо свайго роду гісторыяй беларускага мастацтва. Калі сёння знаёмішся з імі, часам можна заўважыць і пэўную эскізнасць, незавершанасць. Разам з тым, нельга не адчуць галоўнага — тое, што створана мастачкай, сведчанне душы неабыякавай да жыцця, напоўненай жаданнем прыносіць працай сваёй задавальненне людзям.



Партрэт Янкі Маўра.



Дзіцячы парк, цырк.



Маці салдата.

Уражанне такое, быццам знаходзішся дзе-небудзь на ўлонні прыроды. Радуе вока чароўнымі фарбамі ўзлесак, што паспеў пазалаціць сваю лістоту, вабіць у квецень шаўкавісты луг. Здаецца, прахалодай дыхае возера, а гэта — сама ноч, вечна загадкавая, напоўненая таямніцамі.

Паразважаць, знаёмячыся з творамі Васіля Васільева, сапраўды ёсць аб чым. Яго персанальная выстаўка ў Палацы мастацтваў, прымеркаваная да 60-годдзя мастака, складаецца з работ, выкананых у апошнія гады. Тым не менш, нават і па гэтых творах добра відаць, што асноўнае для В. Васільева — апяванне прыроды, раскрыццё думак, пачуццяў і перажыванняў чалавека ў яго дачыненні да навакольнага асяроддзя.

Смела можна сцвярджаць, што ў В. Васільева ёсць свая Беларусь. І тая, што ўвайшла змалку ў душу маляўнічымі краявідамі побач з вёскай Тушавая Горацкага раёна, дзе нарадзіўся. І Беларусь, пазнаная праз шматлікія паездкі па роднаму краю.

«Пачатак лета ў Крывічах», «Навальніца прайшла», «На ўзлесну», «Зноў прыйшла вясна», «Месячнае святло», «Ля возера» — быццам чытаеш кнігу прыроды Беларусі, адкрываючы ў ёй, дзякуючы майстэрству аўтара, жаданыя для сябе старонкі. Прадстаўлены ў экспазіцыі і работы, што адлюстроўваюць пэўныя моманты з жыцця нашых сучаснікаў — «Прадаўшчыца керамікі», «Маці салдата», «Школьная каманда трэніруецца» і іншыя.



На ўзлеску.

На творчую біяграфію заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Сяргея Раманава свой адбітак паклалі падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Дзесяткі работ — графіка, жывапіс — прадстаўлены ў экспазіцыі яго персанальнай выстаўкі, якая працуе ў гэтыя дні ў Палацы мастацтваў, і пераважная большасць з іх адлюстроўвае незабыўныя эпізоды барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод твораў гэтых з асаблівым хваляваннем знаёмішся з малюнкамі, выкананымі паміж баямі.

Шмат у экспазіцыі жывапісных твораў С. Раманава. У тым ліку і такія, якія добра вядомы аматарам мастацтва. Скажам, гэтае палатно — «Беларускі вакзал. Масква 1941-га», што дакладна перадае тагачасныя падзеі. Сумёты, у пахмурным небе аэрастаты супрацьпаветранай абароны. Спяшаюцца байцы ў маскіровачных халатах з супрацьтанкавымі ружжамі на плячах. Сярод іх юнак, яго позірк быццам сустракаецца з нашым. Ідуць салдаты той вялікай Перамогі, якая далёка яшчэ наперадзе і ў якую аднолькава вераць і гэтыя самыя байцы, многія з якіх аддадуць за яе сваё жыццё, і жанкі, старыя, што моўчкі праводзяць позіркамі апалчэнцаў.

А карціна «У адзіным страі» — адна з апошніх работ С. Раманава. Адлюстраваны момант блізкі аўтару па ваенных абставінах. Калі партызанскія атрады з-пад Клічава ішлі на Мінск, яны зліліся з рэгулярнымі часцямі. Узнёслы настрой у людзей, упэўненасць, што хутка вораг будзе разгромлены.

«Абстрэл эшалона паміж Быхавам і Тошчыцай», «Вяртанне з баявой аперацыі», «Вясна ў партызанскай зоне», «Пасля начнога паходу» — гэтыя і іншыя работы С. Раманава таксама своеасаблівае выбранне з перажытага аўтарам, часцінка таго, што захавала яго ваенная памяць.

Да ўсяго неабходна дадаць, што С. Раманаў паспяхова афармляе кнігі беларускіх пісьменнікаў. Тут таксама яго прываблiваюць у першую чаргу творы, у якіх гучыць ваенна-патрыятычная тэма, адлюстраваны характары моцных, мужных людзей.

А. ЯНОВІЧ.



У адзіным страі.



Беларускі вакзал. Масква 1941-га.




з 10 па 16 жніўня

10 жніўня, 20.20

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**

Вы ўбачыце выступленне ансамбля песні і танца «Беларусачка» Маладзечанскага вытворчага аб'яднання «Электрамодуль».

11 жніўня, 18.15

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ».**

Галоўны рэдактар А. Шабалін пазнаёміць з асноўнымі матэрыяламі жнівеньскага нумара часопіса.

11 жніўня, 21.40

**МУЗЫЧНЫЯ СПЕКТАКЛІ ТЭАТРАЎ КРАІНЫ.**

М. Самойлаў. «Тады ў Севільі, ці Яшчэ раз пра Дон Жуана». Спектакль Новасібірскага тэатра музычнай камедыі. Рэжысёр — Э. Ціткова.

12 жніўня, 18.15

**СУЗОР'Е.**

Дыялог з фалькларыстам, доктарам філалагічных навук К. П. Кабашнікавым.

13 жніўня, 20.30

**МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ.**

У. Дарохін. «Веру!» Фантазія для барытона, фартэпіяна і сімфанічнага аркестра. Вершы Н. Гілевіча.

14 жніўня, 19.50

**«БУГ». ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС.**

Рэпартаж аб Днях беларускай літаратуры на Палессі.

15 жніўня, 11.15

**С. ЛАБАЗЁРАЎ. «ПА СУСЕДСТВУ МЫ ЖЫВЁМ».**

Спектакль народнага тэатра Пінскага гарадскога Дома культуры.

15 жніўня, 12.45

**СЛОВА — ПАЭЗІІ.**

Вершы Л. Паўлікавай.

15 жніўня, 14.35

**РОЗДУМ.**

Афармленне кнігі «Слова аб палку Ігаравым» заслужанымі дзеячамі мастацтваў БССР Аленай Лось і Георгіем Паплаўскім.

15 жніўня, 18.35

**ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ.**

Выступае артыстка Гомельскага абласнога драматычнага тэатра І. Чальцова.

15 жніўня, 19.55

**«САЛІСТ ОПЕРЫ...»**

Народны артыст СССР А. Саўчанка.

15 жніўня, 23.00

**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ.**

Вечар джазавай імправізацыі з удзелам інструментальнага трыо пад кіраўніцтвам А. Бурштэйна.

16 жніўня, 11.25

**«ДЫЯЛОГ».**

Размова пісьменніцы В. Іпатавай з рэдактарам часопіса «Работніца і сялянка» М. Карпенкай.

16 жніўня, 13.05

**К. ВІТЛІНГЕР. «ЛЕПШ ЗАСТАНЬСЯ МЁРТВЫМ».**

Спектакль Гродзенскага абласнога рускага драматычнага тэатра.

16 жніўня, 20.25

**«КРОКІ НАСУСТРАЧ».**

Тэленавела ў вершах.

16 жніўня, 21.40

**ПРЭМ'ЕРА МАСТАЦКАГА ФІЛЬМА БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ «КАМЕДЫЯНТ».**

Фільм пастаўлены па аднайменнай п'есе А. Асташонка і прысвечаны В. І. Дуніну-Марцінкевічу.

Уступнае слова кандыдата філалагічных навук Я. Янушкевіча.

## Да нашых чытачоў

Дарагія таварышы, пачалася падпіска на газету «Літаратура і мастацтва».

Як і ў мінулым годзе, падпіска на «ЛіМ» прымаецца без усякіх абмежаванняў грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку па месцы працы, вучобы і жыхарства, у агенцтвах «Саюздруку», на паштамтах і аддзяленнях сувязі.

Кошт падпіскі:

На год — 5 руб. 20 кап.
На 6 месяцаў — 2 руб. 60 кап.
На 3 месяцы — 1 руб. 30 кап.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 21502 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.